

Вяртаўся дамоў...→5

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714



Пікнік з беларусам→8

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 26 (3242) Год LXIII Беласток, 1 ліпеня 2018 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

## Такога моста ніхто не знішчыць!



**Калі Ігнат Карповіч пачуў гісторыю Сонькі і Ёахіма, напісаў кніжку. Дарыюш Жукоўскі, прачытаўшы кніжку, вырашыў сарганізаваць акцыю. Каго і як далей будзе натхняць гісторыя кахання Сонькі і Ёахіма — не вядома. Фактам ёсць, што сёння мост, які вядзе са Случанкі ў Каралёвае Стойла, носіць назву беларускі Сонькі і немца Ёахіма. Іхняя гісторыя дазваляе верыць у любоў па-над усімі падзеламі. А сёння іхні мост даў магчымасць для сустрэчы і святкавання.**

### Малая гісторыя пра вялікія справы

Усё пачалося з аднаго сказа. «Была такая адна, якая ў час вайны мела раман з немцам» — меў сказаць Лявон Тарасэвіч Ігнату Карповічу. Маладая, непісьменная сялянка перажыла гарачы, хаця кароткі, бо толькі двухтыднёвы раман з нямецкім жаўнерам. І ўсё гэта адбылося на падляшскай вёсцы. Случанка, Каралёвае Стойла, Валілы. Тая гісторыя натхніла Карповіча да напісання кніжкі.




— Я пра гэтую гісторыю раней нічога не чула, — адзначыла Анна Садоўская з аб'яднання «Але бабкі». — Але калі пазванілі мне дзяўчаты з аб'яднання і сказалі, што будуць называць мост імёнамі Сонькі і Ёахіма, тады пацікавілася іх гісторыяй. Мая мама сказала, што разам з дачкой Сонькі хадзіла ў школу. Бо яна нарадзіла дзяўчынку.

Пасля таго, як з'явілася кніжка Карповіча, успаміны ў Гарадоцкай гміне нанава ажылі. Людзі пачалі прыпамінаць гісторыю кахання, якую калісьці расказвалі ім іхнія бацькі.

— Чытаў «Соньку». Усе кніжкі ў бібліятэцы даўно прачытаў, а гэтую купіла мне жонка, — кажа васьмідзесяцігадовы Янка Ваўскі. — Некаторыя штосьці гаварылі пра гэту гісторыю, але ці яна сапраўды была? Калі напісанае ў кніжцы, то пэўна была.

— Вы самі верыце, што можна кагосьці так кахаць усё жыццё? — пытаю.

— Так павінна быць, — адказаў з усмешкай спадар Янка.

### Гарадоцкі мост — гарадоцкая гасціна

16 чэрвеня на мосце ў Каралёвым Стойле сабраліся энтузіясты творчасці Ігната Карповіча, мясцовыя ўлады, журналісты і жыхары навакольных вёсачак — гэтыя маладыя і тыя, якія трымаліся сваіх палак. Не абышлося без вялікага стала — сімвала падляшскай гасціннасці, які падрыхтавалі жанчыны з аб'яднання «Але бабкі». Свойскую яду і напіткі мясцовых «бабак» таксама вельмі высока цэніць іх зямляк — Ігнат Карповіч.

— Ігнат найбольш шкадуе, што не зможа пакаштаваць бульбяной бабкі, — сказала ў час урачыстасці доктар Катажына Савіцка-Мяжынская.



Жанчыны з аб'яднання пастараліся таксама, каб падрыхтаваць нешта для душы. Таму намовілі Анну Садоўскую са Случанкі, каб гэтай падзеі прысвяціла свой верш.

— Прызнаюся, што кніжку яшчэ не чытала, але гісторыю закаханых ведаю, — адзначыла Анна Садоўская. — Мне ціснуліся слёзы на вочы, калі я дзяўчатам прачытала свой верш. Гэта такая гісторыя. Сапраўды.

Случанскія дзяячкі з аб'яднання «Але бабкі» цэлым сэрцам уключыліся ў акцыю прысваення мосту імя Сонькі і Ёахіма. Ініцыятарам акцыі быў іх зямляк Дарыюш Жукоўскі. Захапіўся гісторыяй рамана і, як падкрэслівае, увесь час захапляецца роднай ваколіцай.

— Калі толькі прачытаў у кніжцы гэтую гісторыю, зразу ведаў, што нешта трэба будзе сарганізаваць, — сказаў Дарыюш Жукоўскі. — Ігнат, на жаль, не змог прыехаць на гэтую ўрачыстасць, але даў мне дазвол на гэтую акцыю. Нават напісаў, што варта займацца літаратурай, што варта пісаць нават дзеля таго, каб паўставалі такія ініцыятывы, як гэтая.

### Масты без сустрэч — мёртвыя

Дошка з надпісам «Мост імя Сонькі і Ёахіма» была закрыта гафтаваным ручніком. Пры воплесках сабраных дошку ўрачыста адкрыў войт Гарадоцкай гміны Весляў Кулеша.

— Вядома, гэта толькі сімвалічнае наданне мосту назвы, — адзначыў Весляў Кулеша. — Вельмі добра, што наш Дарэк, ён сам родам згэтуль, выступіў з такой ініцыятывай. Я сам пад гэтым мостам сядзеў з сябрамі, калі ўцякалі мы са школы. Мост быў месцам нашых сустрэч.

Войт Кулеша таксама паганарыўся, што менавіта з моста відаць ягоны луг. Наогул гэта вельмі чароўнае месца. Тут рака Супрасль адкрываецца з дарогі надта прыгожым краявідам.

— Я б хацеў, каб гэты мост быў такім сімвалам любові, — сказаў Дарыюш Жукоўскі. — Каб тут менавіта фатаграфаваліся маладыя пары. Італьянцы маюць Верону, Рамеа і Джульету. Мы маем Соньку і Ёахіма.

Мерапрыемства з нагоды надання мосту назвы было чарговай сустрэчай чарговага ўжо пакалення на гэтым месцы. Былі зачытаны фрагменты кніжкі «Сонька» Ігната Карповіча, у якой аўтар апісаў патаемныя сустрэчы закаханых у тым жа месцы.

— Масты без людзей — мёртвыя. Мост гэта сустрэча, — сказала Катажына Савіцка-Мяжынская. — Мост гэта нешта, што спалучае адну і другую стораны. Будаванне мастоў таксама заўсёды патрабуе дзейнасці. Думаю, што ў гэтым выпадку маем дачыненне менавіта з такім файным дзействам.

Акцыя прысваення мосту імя дала магчымасць для сустрэчы. Была нагода для размоў, у час якіх некаторыя прызналіся, што гісторыю ведаюць толькі з вуснага пераказу, але зараз абавязкова набудуць кніжку Ігната Карповіча. Госці чыталі, частаваліся дамашняй ядой, пілі мясцовыя напоі, пускалі папяровыя лодачкі, на прыклад з надпісам «любоў». Бо менавіта гэта гісторыя кахання, кахання мясцовай жанчыны, якая заінспіравала ўжо шэраг людзей.

— Гэта памятка любові, — дадаў Дарыюш Жукоўскі. — Не ведаю ці сапраўды была такая Сонька. Лявон Тарасэвіч гаворыць, што была такая, якая кахала немца. Ці гэта праўда? Не важнае. Галоўнае, што ёсць мост і любоў, што любоў магчымая між людзьмі, якую нехта памятае цягам дзясяткаў гадоў. У сучасным свеце не так лёгка з любоўю. Мне так прынамсі здаецца.

Тэкст і фота
**Уршулі ШУБЗДЫ**



# Каму візы, а каму сюрпрызы

Праглядаючы стужку еўрапейскіх навін, напароўся я на наступнае паведамленне: 19 чэрвеня ад імя Рады Еўрапейскага Саюза амбасадары еўрасаюзных краін ухвалілі мандат на перамовы з Еўрапарламентам па зменах у візавы кодэкс. Калі можа быць прынята канчатковае рашэнне, не ўдакладняецца. А вось сярод прапанаваных змен — падаражанне віз да 80 еўра з цяперашніх 60. Такія змены анансавала Еўракамісія.

Напачатку нават увагі я не звярнуў на гэтую навіну. Проста падумаў: „Рабіць ім больш няма чаго, як толькі размаўляць пра нейкія лішнія 20 еўра за візу. Як быццам бы яны, гэтыя 20 еўра, некага змогуць абагаціць або збядніць?" А пасля змяніў сваю думку як крыху палічыў. Усё ж трэба прызнаць, што таго-сяго збядніць могуць. Асабліва калі гаварыць пра беларусаў. Прыкладам, вырашыць нейкая сям'я з пяці чалавек, двое бацькоў і трое дзяцей паглядзець, ці праўда што ў дэмакратычным свеце жывецца лепш, чым у краінах з іншым палітычным выбарам — ну ў такіх як наша родненькая краіна. І вось гэтыя дваццаць еўра ўжо трэба памножыць на пяць. Для беларускай сям'і з трыма дзецьмі 100 еўра дастаткова адчувальная сума. Тым больш што агульны кошт толькі адных віз для іх раўняецца 400 еўра на такую сям'ю. Нават калі верыць афіцыйнай беларускай прапагандзе пра заробкі нашых грамадзян, і то сума для некаторых непад'ёмная. Калі ж у прапаганду не верыць, то колькасць для каго гэта сума непад'ёмная павялічваецца ў разы. Таму не кожная беларуская сям'я пасля падаражання «шэнгенаў» спакусіцца на экскурсію па дэмакратычных землях. І з поўнай упэўненасцю, што дэмакратычная супольнасць гэта выключна скупыя чыноўнікі, проста застанецца праядаць гэтыя еўра ў сваёй краіне, або ў тым месцы, дзе візы таннейшыя. Еўра, яны і ў Афрыцы еўра. Ну а паколькі еўрапейскіх віз яны не набудуць, то гэтыя еўра так і не патрапяць туды, дзе іх надрукавалі. Логіка тут дастаткова простая — чым даражэйшыя візы, тым менш іх купляюць. Таму хутчэй за ўсё беларуская сям'я з пяці чалавек паедзе адпачыць прыкладам у Турцыю. З дэмакратычнымі каштоўнасцямі там пазнаёміцца пакуль што наўрад ці ўдасца, а вось зэканоміць на візе можна.

Загадкай застаецца тое, чым кіраваўся еўрапейскі чыноўнік, калі такую прапанову ўносіў. Афіцыйная версія настолькі прымітыўная, што яе клеяць практычна на ўсе абсурдныя з фінансавага боку гледжання рашэнні. І гэтым разам яна гучала так — падвысіць цэны на візы да 80 еўра прапануецца, каб „забяспечыць краінам-удзельнікам пакрыццё коштаў апрацоўкі віз без стрымлівання атрымання віз". Цану візы прапануюць пераглядаць раз на тры гады (цяперашняя трымаецца з 2007 года).

Не ведаю, якія там сапраўдныя матывы, але гэты нават на слых не ўспрымаецца. Нізашто не паверу, што еўрапейцы лічыць не ўмеюць. Нават нашы постсавецкія чыноўнікі ўжо зразумелі, што менавіта платныя візы пазбаўляюць эканоміку краіны ад фінансавых уліванняў замежных турыстаў. І нават яны, постсавецкія, адмянілі ўвогуле тыя візы для грамадзян больш чым васьмідзесяці краін. І замежнікі павалілі валам у Сінявокую. Усё больш і больш. І грошы тут пакідаць сталі значна большыя, чым можна было ў іх на візах здзерці, як нашы разумнікі рабілі гэта да нядаўняга часу. Псіхалогія ў людзей ва ўсім свеце прыкладна аднолькавая. На візу то грошай шкада. А на гарэлку шкада толькі да трэцяй чаркі. Таму, калі хочаш зарабіць на турыстах, то не толькі візы трэба рабіць за дарма, але і першыя тры чаркі наліваць таксама без аплаты прама пры перасячэнні мяжы.

Зрэшты, можа так нам і трэба з тымі дарагімі шэнгенскімі візамі. Бо нашы суродзічы па Савецкім Саюзе грузіны ды ўкраінцы зусім за візы не плацяць. А прыбалты дык увогуле ў Еўрасаюз на роўных з іншымі правах уваходзяць. І нас ніхто не прагане асабліва. Самі свой выбар зрабілі. І калі падвышэнне коштаў на шэнгенскія візы гэта свядомая або несвядомая кара за такі выбар, то я толькі за. Але наўрад ці гэта так. Бо едуць жа шэрагамі і калонамі ў гэту Еўропу тыя, хто яе і яе дэмакратычны лад на дух не пераносяць. І аніякіх віз ад іх ніхто не патрабуе. Так што такая падвышаная ўвага менавіта да нас так і застаецца загадкай.

**Віктар САЗОНАЎ**



# Фуфайкавая дэмакратыя

У Турцыі прэзідэнцкія выбары. Няма чаго сумнявацца, што пераможа памазаны самім сабой на дэмакратычнага пераможцу дзеючы прэзідэнт Эрдаган. Калі каго-небудзь яшчэ здзіўляе, што ў такой жа працэдуры адбыліся нядаўнія выбары ў Беларусі і ў хуткім часе будуць такія ж у Расіі? Хваля дэмакратыі, якая пракацілася па ўсім зямным шары ў 90-х гадах дваццатага стагоддзя, сёння адбівае, пакідаючы накіп нацыянальнага нацыяналізму і бяздумнага папулізму. Пасля адступаючай хвалі засталася нічыйная зямля, бясплённая і салоная, на якой могуць выжыць толькі звычайныя бактэрыі, кіраваныя адным прынцыпам: падзяляй сама сабе, але ўладар усімі!

Эрдагана ўжо даўно называюць — гучна ў вольным свеце, а трывожным шэптам у Турцыі — султанам, сатрапам, тыранам... Слова «дыктатар», прызнанае Орбану ў Венгрыі або ў Беларусі Лукашэнку, не падыходзіць да ўзурпіраванай ім улады. У Турцыі гэта цар і бог разам, пан жыцця і смерці, дрэнны сон спячай Дэмакратыі. Але кажуць, што самі туркі гэтага хацелі...

У Польшчы ў бліжэйшы час прыступім да выбараў у самакіруючыя ўлады. Тады высвеціцца, чаго хочуць палякі. І нават калі цяпер яны яшчэ не ведаюць, чаго хочуць, у рэшце рэшт даведаюцца, чаго не хочуць, калі будзе запозна, каб маглі што-небудзь захацець. Гэтую сферу іх асабістай волі можа ўзяць на сябе цяперашняя ўлада, якая, какетнічаючы ілюзіяй дэмакратыі, захопніцкім законам размнажвання выключэнняў умацоўвае правілы неканстытуцыйнага кіравання. Толькі што выключэнне, насуперак сцёртай прымаўцы, не пацвярджае правіла, і яго адмаўляе. Таму неканстытуцыйная ўлада з'яўляецца незаконнай!

Варта тут нагадаць, што выраз «выключэнне пацвярджае правіла» з'яўляецца паўсюдна замацаваным нонсэнсам. Таму што слова «пацвярджае» ў гэтым кантэксце мела першапачатковы сэнс «правярае», — так, як правяраецца правільны рост дзіцяці, прыкладваючы да яго ў рэгулярных інтэрвалах часу сантыметровую мерку. Нясмела прыведзены мною, а злоўжываны цяпер кіруючай Польшчай партыяй у палітычнай практыцы тэрмін паходзіць ад рымскага прававога прынцыпу «exceptio probat regulam in casibus nonexceptis». Гэта азначае, не менш і не больш, што калі ёсць выключэнні з гэтага правіла, неабходны іншыя правілы. І толькі ў гэтым сэнсе мае гэта лагічны сэнс.

У той час як яе сучасная форма гэтую логіку губляе, паколькі выключэнне з гэтага правіла адмаўляе тое ж самае правіла. Тым не менш, кіруючая партыя ў цяперашні час упарта будуе чацвёртую Польскую Рэч Паспалітую на аснове росту ліку прававых выключэнняў, якія па сутнасці дэманцыруюць Канстытуцыю. Быццам бы яна яшчэ ёсць, але ўжо ў жалюгодных шматках. Не дзейнічае належна Канстытуцыйны трыбунал, хоць ён павінен стаяць на варце Канстытуцыі. Тое ж самае адбываецца з Вярхоўным судом. Нездарма ж цяперашні прэзідэнт Рэспублікі спакушае палякаў праектам новай Канстытуцыі. Патрабуе нават па гэтым пытанні ўсеагульнага плебісцыту. Міфічны суверэн мае аб'явіць, ці хоча ён абмежавання ў светапоглядах і ідэалагічнага плюралізму, у свабодзе думкі і слова, незалежнасці сродкаў масавай інфармацыі; і, нарэшце, хоча, каб яго інструктавалі, паказвалі, загадвалі, і нарэшце зазіралі яму ў трусы і ў галаву. І, нарэшце, забаранілі хацець чаго-небудзь. Напрыклад, свабоды выказвання сваіх поглядаў. Адзінае пытанне заключаецца ў тым, які суверэн, які па вызначэнні з'яўляецца суб'ектам незалежным ад чаго-небудзь і каго-небудзь, дасць на такое сваю згоду? А нават калі будзе згодны, дык які ж ён суверэн?

На самой справе ПіС дзейнічае супраць польскай дзяржавы, разваліваючы яе канстытуцыю крывадушным канцэптам выключэння пацвярджаючага правіла. Вядома, гэта прабел. На жаль, многія людзі могуць быць ашуканымі. Расцягнуты ў часе чарвяк «добрай змены» паслядоўна пракусвае польскую дэмакратыю. Падступна. Падземна. Падобнай тэхнікай паўзучага дэмантажу эфектыўна пакарысталіся Лукашэнка і Пуцін, Эрдаган і Орбан. Дэмакратыі, якая падняла да ўлады гэтых людзей, у іх краінах ужо даўно няма. Ці гэтага хацелі туркі, венгры, расіяне, беларусы? Ці можа прадстаўляючы іх уяўны «суверэн»?

У рэшце рэшт справа не ў тым, каб ведаць, што мы хочам, але ў тым, чаго сапраўды не хочам. Ці выберам фуфайкавую дэмакратыю часоў «сацыялізму»?

**Міраслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

# Адкуль бяда з падлеткамі?

За намі чарговы, школьны год. Дзеці і моладзь рынулі ў бязмежжа канікулярных прыгод, свабоды і падарожжаў. Чэрвень для іх гэта доўгачаканы месяц, які заўсёды пасля дваццатага чысла адкрывае райскі перыяд. Гэта быццам умоўныя райскія вароты, якія кожнаму хрысціяніну заўсёды адкрываюцца ў велікодны перыяд з надзеяй на збаўленне. А калі яшчэ згадаць, што першае чэрвеня — Дзень дзіцяці, які з'яўляецца таксама днём школьнай свабоды і сямейных віншаванняў, то нават цяжар апошніх тыдняў навукі здаецца быць толькі кароткатэрміновым эпізодам на фоне чаканых гульняў.

Але не для ўсіх. Школьны перыяд для многіх малалеткаў і падлеткаў таксама з'яўляецца перыядам напружанасці, стрэсу ці ў штораз большай ступені нават дзіцячай і юнацкай дэпрэсіі. Улічыўшы тут яшчэ часамі няспрыяльныя сямейныя, сяброўскія адносіны ці кантакт з псіхатропнымі сродкамі, то эмацыйная і псіхічная напружанасць бывае так моцная, што справіцца з ёю маладому чалавеку не пад сілу. Што тут гаварыць пра маладых, калі мы самі добра ведаем, колькі выклікаў і цяжараў не вытрымліваюць псіхічна нашы дарослыя мазгі ў змаганні са штодзённым. А тут у вучнёўскім выпадку, калі толькі што выбудоўваецца нервовая і псіхічная сістэма арганізма.

Пішу ўсе гэтыя словы пад цяжарам навіны, якая дакацілася да нас з недалёкай Нарвы. Там менавіта 1 чэрвеня здарылася трагедыя, калі пятнаццацігадовы вучань мясцовай школы пакончыў сваё кароткае жыццё самагубствам. Праз тыдзень тое ж самае хацеў здзейсніць толькі на год старэйшы ягоны сябра. Што там дзеецца? — праз слёзы і боль ціснуцца пытанні не толькі сямейнікам. Адкуль у маладых з'яўляюцца думкі аб такіх рэзкіх, абрываючых жыццё кроках? На парозе дарослага жыцця пераступілі яны парог смерці. Адкуль бярэцца імпульс да такога пачыну? Ці пры такіх драматычных хвілінах увогуле прысутнічае свядомасць? Які невыносны цяжар маральнай адказнасці пасяліўся зараз у галовах і душах сямейнікаў, сяброў, настаўнікаў. Жыць з болем і пытаннем: а можа мы тут у нечым вінаватыя? Вядома, што пракуратура і куратарыя такую чорную серыю не пакінуць па-за сваёй увагай. Але жыцця ніхто ўжо не верне. Не дай толькі Божа, каб самагубствы разліліся яшчэ шырэйшай хваляй у маладым пакаленні.

А ёсць чаго тут баяцца. Паводле статыстык Польшча (з 209 выпадкамі) апынулася, на жаль, на другім месцы ў Еўропе па колькасці самагубстваў сярод непаўналетніх. На першым месцы — немцы. У 2014 годзе мелі там месца 224 самагубствы сярод моладзі, якой ніжэй за дзевятнаццаць гадоў. У статыстыку не ўлічваюцца вырататаваныя самагубцы. На трэцім месцы няслаўнай статыстыкі знаходзяцца французы (171), брытанцы (134), італьянцы (87), іспанцы (69). Найменш смяротных здарэнняў зафіксавана ў нарвежцаў (10), сербаў (8), славенцаў (6).

Польскі Фонд «Даем дзецям сілу» лічыць, што зараз разбурэнне псіхічнага здароўя дзяцей і моладзі з'яўляецца найбольшай праблемай гэтай групы грамадства. Калі раней хатнія праблемы, пераслед з боку аднагодкаў ці школьны стрэс былі тымі справамі, з якімі звярталіся яны да фонду за дапамогай, то зараз дэпрэсіўны настрой і самагубныя думкі, пераважаюць у размовах з непаўналетнімі. З патрэбай адкрыцца са сваімі думкамі не хочуць яны ані перад сямейнікамі, ані перад аднагодкамі. Нават мінулагодняя справаздача Найвышэйшай кантрольнай палаты прызнае, што «дзеці і моладзь не забяспечаны адпаведнай псіхалагічна-педагагічнай апекай». Самі псіхолагі звяртаюць увагу, што дзеці перагружаны ўсялякімі заняткамі і празмернасцю вонкавых стымулаў. Катастрафічна не хапае ім часу на адпачынак, рэфлексію і аналіз уласных перажыванняў. Але незважаючы на дзве гэтыя пары праблемай была таксама і падтрымка для бацькоў самых дзяцей. Бацькі не ведаюць, як размаўляць з агрэсіўнымі сямейнікамі, якія да іх ставяцца варожа і груба, пры дапамозе незразумелага слэнгу маладога пакалення. Да каго ім звяртацца па дапамогу, каб магчы нейк дамовіцца са сваімі ўзбунтаванымі і адначасна закрытымі падлеткамі? А можа на канікулах варта знайсці час на супольныя эмоцыі і размовы, каб узаемна сябе дапамагчы?

**Яўген ВАПА**



# Пад пальмамі **ў Міколы Цудатворца** (ч.6)

Слёзы і рыданні пры мошчах цудатворцаў — эмоцыя паўсюдная і жаданая. Не зазнаць такога ля магілы святціцеля Міколы, гэта так як згубіць сэнс падарожжа.

Маё слёзацячэнне явілася аднак падазроным. Звычайна яно ўспыхвала пры ранішнім святле і блакітным, прыморшчаным хвалямі люстры мора. Цела і душу залівала святло, якое быццам міфічны кубак нектару падбадзёрвала і абуджала ў новай, каларытнай казцы. Увесь працэс перамены, які адбываўся дзякуючы радаснаму, маладому італьянскаму святлу, здаваўся часткай культу святціцеля.

Першы цуд, які здарыўся са мной у Бары, гэта здзіўленне, калі я адкрыла «Kroniki beskidzkie i światowe» і пачала іх чытаць без акуляраў. І толькі цяпер я прыкмеціла вокладку! На ёй, а як жа, віднела падляшская вёска, злоўленая ў фотааб'ектыў Віктара Волкава. Змест кніжкі таксама прымушаў да слёзацячэння. Анджэй Стасюк распраўляўся з шэрасцю бескідскіх золакаў, дажджлівымі буднямі і асавелымі фэстамі. Каб згубіць цень славянскай меланхоліі, ён выпраўляўся на азіяцкія стэпы, апісваючы іх святло і бесканечныя, задуменныя краявіды. Між светамі і стыхіямі як камень вырастаў падляшскі дом дзядоў, спавіты зялёным Бугам і лесам. Сумная кніжка, як не дзіўна, дапамагала вымесці смутак на душы.

* * *

Бо сумаваць на фіесце ў гонар святціцеля Міколы — грэх і недахоп такту! Уначы з 7 на 8 мая цэнтр Бары закішэў. Па праспекце Corso Vittorio Emanuele, па якім назначылі начное шэсце, ужо ад абеду тоўпілася мора народу. Здавалася, з'ехаліся не толькі жыхары прыгарадскіх кварталаў, але і ўся правінцыя. Выстойвалі сем'ямі, кампаніяй, турыстычнымі групамі. Пасля шэсця прадоўжаць бяседу да белай раніцы пры віне і здаровым рогаце.

Дзякуючы такой адной кампаніі нам пашчасціла прабіцца да бар'еркі, адкуль распасціраўся прыстойны від на вуліцу. Большасць гледачоў магла толькі памарыць аб такім месцы. Каміла, Пэдра і Ніно прыйшлі на тры гадзіны раней, каб заняць добрае месца. І зараз адступілі яго нам — чужаземцам з Падляшша, якія звярнуліся да іх з пытаннямі па-італьянску. О, гэта падабаецца барычанам! Уся тройца чакала ў напружанні аднаго моманту. На ўсе пытанні пра фіесту, мелі адзін адказ:

— О, тут прачытайце!

Карацей, яны падсоўвалі смартфоны, паказвалі інфармацыі ў інтэрнэце і прапанавалі скачаць лінк.

— Там усё сказана пра фіесту!

Тым часам сярэдзінай праспекта рушыў ужо паток аматараў-акцёраў, якія ажыццяўлялі рэканструкцыю прыбыцця мошчаў Міколы Цудатворца ў 1087 годзе. Спектакль са сцэнамі сярэднявечных турніраў, вулічных тэатраў, аркестрамі і паглынальнікамі агню цягнуўся за тры гадзіны. Прытым публіка і акцёры ўвесь час пераклікаліся. Калі на конях з'явіліся ездакі ў даспехах, наша кампанія радасна зараўла:

— Франчэска!

Франчэска ў жалезным шлеме і ў такіх жа даспехах жахліва памахаў у наш бок шабляй і папрасіў каня, каб ён затанчыў перад нашым тратуарам. У адказ — піск, віск, бравы і пацалункі. Самы страсны пацалунак у бок рыцара паслала Каміла.

— Гэта мой муж, — адзначыла, не хаваючы гонару чарнявая прыгажуня, — перажываю, каб ён з каня не зляцеў!





— Яшчэ не пара на гэта! — зарагатаў Пэдра, швагер Камілы.

Сям'я з'явілася на фіесту, каб падтрымаць Франчэска. Да іх далучыўся Ніно, найлепшы сябар Франчэска. Падобныя сцэны, калі пераклікаліся з сабой публіка і акцёры, паўтараліся без канца. Здавалася, усе ўсіх ведаюць у гэтым двухмільённым горадзе.

У шэсці побач гістарычных персанажаў ішлі таксама сучасныя ўлады горада. Іх віталі бравамі. У карагодзе прабіліся і славянскія матывы. Гонару заслужылі народы, якія найбольш ушаноўваюць Міколу Цудатворца. У шэсці, па фальклорных касцюмах можна было распазнаць расіян і сербаў. За імі каціўся сонечны шар, падпісаны старацаркоўнай азбукай: «Святціцелю Отчэ Ніколе молі Бога о нас»

У гэтую радасную ноч усе давяралі святому. Мы таксама пакаціліся за італьянскай кампаніяй, каб у знак светлага сяброўства на лавачцы пад пальмамі напіцца віна...

* * *

У сонцы Паўднёвай Еўропы, пад пальмамі здаравеў Андраш, галоўны герой рамана Кшыштафа Варгі «Sonnenberg», які ў сваю чаргу вызваляўся ад Будапешта і сэрэднееўрапейскай змрочнасці.

— *Святло ў нашай частцы Еўропы,* — наракаў ён, — *заўсёды замурзанае, як недамытая шыба, як скамечаная фіранка, заброханае балотам, пылам прынесеным ад стэпу, яно стомленае і забруджвае, таму ніколі не бывае светлае і празрыстае... Яно валачэцца следам прыбітых людзей, каб яшчэ больш убіць іх у зямлю, прыгнесці, а пасля ўскараскацца ім на плечы і заставіць несці як вялікага пана...*

Будапешцкае наракканне, як не дзіўна, таксама суцяшала і ставіла на ногі.

(працяг будзе)

Фота і тэкст
**Ганны КАНДРАЦЮК**

## З роднай „Нівай” кожны дзень

У Нараўчанскай гміне Гайнаўскага павета беларускі штотыднёвік „Ніва” прыходзіць у нараўчанскія крамы ГС і „Аргелян” ды на пошту ў некалькі дзясяткаў экзэмпляраў. Купляюць яе некаторыя жыхары Альхоўкі, Гушчэвіны, Новага Ляўкова, Старога Ляўкова, Лешукоў, Міклашэва, Новін, Плянты, Семяноўкі і Тарнаполя. Найбольш купляе яе сваім суседзям з Новага Ляўкова ды некаторым жыхарам іншых вёсак ніжэй падпісаны гмінны радны і солтыс.

І так, „Ніву” № 23 ад 10 чэрвеня гэтага года гартала — што мне добра вядома, бо туды вазіў родны тыднёвік — сем асоб з Новага Ляўкова, Альхоўкі і Плянты.

Калі выйшаў з друку 24 нумар „Нівы” (ён ад 17 чэрвеня 2017 года) і родны тыднёвік прывезлі ў дзве крамы ГС і ў „Аргелян” у Нараўцы, яго — што мяне вельмі цешыць — усе яго 20 экзэмпляраў купілі. „Ніву” чыталі, між іншым, 12 асоб з Новага Ляўкова, пяць з Плянты ды па адной з Ахрымоў, Нараўкі і Новін. Яны прачыталі перш-наперш усе допісы, якія датычылі Нараўчанскай гміны.

22 і 23 чэрвеня г. г. вазіў я „Ніву” № 25 бліжэйшым і далейшым аднавяскоўцам Зіне Сахарчук, Андрэю Пучынскаму, Лідзіі Трусевіч, Канстанціну Целушэцкаму, Раісе Баканач, Валянціне Рыгаровіч, Віталю і Вользе Скепкам, Эве Дзеніс і Галіне Целушэцкай з Новага Ляўкова, Марыі Янель, Валянціне Самойлік, Веры Клімюк і Галіне Бірыцкай з Плянты, Юрку Бельскаму з Ахрымоў і Канстанціну Ярошку з Новін.

У гэтым нумары беларускага штотыднёвіка былі, між іншым, артыкулы якраз пра культурныя (Міжнародны пленэр мастакоў у Нараўцы і XXXII Сустрэчы „Зоркі” ў Новым Ляўкове) і іншыя падзеі ў Нараўчанскай гміне ды было запрашэнне да ўдзелу ў сёлетнім XXI Агульнапольскім конкурсе беларускай паэзіі і прозы. У ліпені г. г. я прысвячу больш часу на распаўсюджванне роднай газеты, павязу яе яшчэ ў іншыя беларускія вёскі. Буду шукаць тэм для дапісаў у „Ніву” і буду браць з сабою ў дарогу родны часопіс. Я з „Нівай” кожны дзень.

## Гміна прыгажэе

У Міхалоўскай гміне Беластоцкага павета многае што робяць для дабра ўсіх жыхароў горада Міхалова. Стала неабходна і таму разбудоўваюць водаправодную і сцёкавую сеткі на вуліцах Сасновай і Яваравай. Перабудоўваюць вуліцу Клёнавую. Пасадзілі 1500 дэкаратыўных дрэў і кустоў, між іншым, пры вуліцы Беластоцкай. Сто дрэўцаў пасадзілі ў сувязі з 100-й гадавінай зноў здабытай незалежнасці Польскай дзяржавай.

Ужо будуюць санітарную каналізацыю ў вялікай і прыгожай вёсцы-вуліцоўцы Новая Воля (яна налічвае каля 300 жыхароў). Сяло мае кальцавую магістральную дарогу. Па новай асфальтавай дарозе па-за сялом ездзяць легкавыя аўтамабілі і грузавікі з Міхалова ў прыгранічную Ялоўку або ў Семяноўку і Нараўку.

Ужо адрамантавалі дарогу ў вёсцы Копцы. Пабудавалі прыстрэшкі ў Шымках і Цісоўцы. Ссеклі кусты а таксама старыя і сухія дрэвы на абочынах гмінных дарог у Луплянцы, Шымках і Цісоўцы.

## У „Тамары” адкрыюць выстаўку

23 чэрвеня гэтага года ў Галерэі імя Тамары Саланевіч у Нараўцы Гайнаўскага павета адбудзецца адкрыццё выстаўкі карцін удзельнікаў нядаўняга сёлетняга Міжнароднага пленэру „Нараўка-2018” у Нараўцы. На ёй можна будзе агледзець лепшыя працы мастакоў з Беластока, Гайнаўкі, Любліна, Варшавы і з Чэрвеньска Зялёнагурскага павета Любускага ваяводства ды з Брэста і з Гродна.

Пачатак мерапрыемства а гадзіне 15-ай. Запрашаюць Гмінны асяродак культуры і галерэя ў Нараўцы. **(яц)**

# «Надзея дае сілу»



Фонд госпісу прарока Іллі з сядзібай у Міхалове сарганізаваў паэтычны конкурс для дзяцей пад загалоўкам «Надзея дае сілу», у якім прынялі ўдзел дзеці і моладзь не толькі з ваколіцы. Сярод 43 твораў, дасланых на конкурс журы (паэты Міра Лукша, Дар'юш Адамоўскі і настаўніца і перакладчыца, кіраўнік валантарыяту Эдыта Росяк) вылучыла сем лаўрэатаў. Не толькі іх творы апынуліся ў адмысловым зборніку паэзіі, аздобленым жоўтымі нарцысамі — сімвалам надзеі для невылечна хворых. Вершы ўсіх аўтараў з навакольных школ будуць памяткай і для маладых аўтараў, і для школ. Адзначаны былі таксама малечы — Вікторыя Бувай (7 гадоў) і Дамінік Болтрык (8 гадоў), за ўдалую спробу змерання сваіх сіл з нялёгкай тэмай; Себастыян Пучынскі (12 гадоў) — за лёгкае пяро і мастацкія каштоўнасці ды арыгінальны падыход да тэмы. Анна



Качмарак (12 гадоў) узнагароджана за тэкст найбліжэйшы госпіснай тэматыцы, а Кацярына Багінская (13 гадоў) — за арыгінальную форму нерыфмаванага верша ды адмысловую метафару. Марцін Казбярук (16 гадоў) узнагароджаны за падыход поўны эмпатыі да тэмы пакут і хваробы. Марыся Яблонская (18 гадоў) з Белавежы, якая сёлета закончыла вучобу ў Гайнаўскім белліцэі, узнагароджана за ўвагу да духоўнага вымярэння надзеі ў сваім вершы. Марыся выбіраецца вучыцца ў Беластоцкай палітэхніцы на архітэктара, але цяпер любіць проста маляваць, цікавіць яе ілюстрацыя, і, вядома, будзе далей запісваць сваю ўражлівасць, пачуцці і думкі ў вершах.

На сустрэчы ў міхалоўскай Майстэрні фатаграфіі і фільма маладыя адэпты пяра маглі паспяваць разам песню Булата Акуджавы «Надзея», паслухаць ігру на габоі ў выкананні валанцёра з Францыі Мат'ю Жале і даведацца, як па-французску гучаць назвы органаў цела, паразмаўляць пра здароўе з доктар медычных навук Бэатай Клім і доктарам Паўлам Грабоўскім, а фізіятэрапеўтка Кацярына Швед паказала дзецям як выконваецца лімфатычны масаж і «тэйпаванне» (наклейванне на целе абязбольваючых паяскоў). Узнагароды для лаўрэатаў падаравалі Дар'юш Адамоўскі (кніга «Вайна светаў»), пернікі з Падляшша — Мар'еля Собчык, якая падтрымлівае госпіс таксама ў сваёй групе «Анёлы Мар'ёлі» ды Цукар-Люкар Беласток, які супрацоўнічае з госпісам пры нагодзе штогадовых «Палёў надзеі», калі ўсе саджаюць жоўтыя нарцысы.

**(лук)**

**Марыя ЯБЛОНСКАЯ**

### нябачны

злева — лес
справа — луг
уверсе — неба
і хмары
не забудзь пра хмары
а сонца?
без хмар яно нейкае банальнае
насупраць — крыніца
ўздоўж — каменне
дзе-нідзе трыснёг
такі слабы
такі моцны!
А цяпер
сядзь на траве і заплюшч вочы
чуеш? адчуваеш?
нябачны, ды немагчыма Яго не ўбачыць.
і ў маўклівым камені
і ў хісткім трыснягу
і ў шумлівай крыніцы
і ў вялікіх хмарах
і ў малых аблачынках
і ў праменні сонца
і хіба ж у небе?
падумаў бы ты
напэўна
і ў віне і хлебе
і ў мінуце, гадзіне і дні
Ён у табе
можаш Яго адчуць
Той хто не спіць, ведае, кіруе лёсам
Ён ведае, калі ты ў патрэбе
Ён чакае цябе
нябачны, ды немагчыма Яго не ўбачыць.

# Вынікі конкурсу «Пазнай Беларусь — 2018»



Намінацыя **лепшы малюнак, пластычная праца пра Беларусь.** Катэгорыя **3-6 гадоў**. І месца: Ізабела Крук — прадшколле «Tęczowy Promyk» у Беластоку; ІІ — Зофія Чыквін і Анастасія Цыркун — Самаўрадавае прадшколле №14 у Беластоку. Катэгорыя **7-12 гадоў**: І месца — Мікалай Юргель — ПШ №14 у Беластоку; ІІ месца: Таіса Фіёнік — ПШ № 3 імя Яраслава Касцыцэвіча ў Бельску-Падляшскім; ІІІ месца: Юлія Федарук і Зофія Драздоўская — ПШ № 3 імя Я. Касцыцэвіча ў Бельску-Падляшскім; вылучэнне: Вольга Петрышык і Алан Алексяюк з ПШ № 3 імя Я. Касцыцэвіча ў Бельску-Падляшскім. Катэгорыя **13-15 гадоў:** ІІ месца: Аляксандра Пранявіцкая — ПШ № 3 імя Я. Касцыцэвіча ў Бельску-Падляшскім. Катэгорыя **16-19 гадоў**. І месца: Эвеліна Садоўская — Бельскі беларускі ліцэй імя Браніслава Тарашкевіча; ІІ месца: Кацярына Лукашук і Матэвуш Мялешка — Бельскі беларускі ліцэй; ІІІ месца: Наталля Васько — Гайнаўскі беларускі ліцэй, Аляксандра Зінкевіч — Бельскі беларускі ліцэй

Намінацыя **фотаздымак аб Беларусі ці беларусах.** Катэгорыя **3-6 гадоў.** Вылучэнне: Ізабела Крук – прадшколле «Tęczowy Promyk» у Беластоку. Катэгорыя **7-12 гадоў.** І месца: Бартош Карась — ПШ № 3 імя Я. Касцыцэвіча ў Бельску-Падляшскім; ІІ месца: Кшыштаф Анджэюк — ПШ № 3 імя Я. Касцыцэвіча ў Бельску-Падляшскім; ІІІ месца: Зофія Драздоўская і Міхал Ваўжэнюк — ПШ № 3 імя Я. Касцыцэвіча ў Бельску-Падляшскім; вылучэнне: Ганна Кердалевіч — ПШ № 3 імя Я. Касцыцэвіча ў Бельску-Падляшскім. Катэгорыя **13-15 гадоў**. І месца: Вікторыя Гаць — ПШ № 3 імя Я. Касцыцэвіча ў Бельску-Падляшскім; ІІ месца — Паўліна Ёдла — ПШ № 3 імя Я. Касцыцэвіча ў Бельску-Падляшскім; вылучэнне: Вікторыя Патонец — ПШ у Нараўцы. Катэгорыя **16-19 гадоў**. ІІ месца: Аляксандра Зінкевіч — Бельскі беларускі ліцэй.

Намінацыя **літаратурна-паэтычны твор**. Катэгорыя **7-12 гадоў**. І месца: Каліса Пятроўская — ПШ № 4 у Беластоку; ІІ месца: Наталля Заянчоўская і Габрыель Герасімюк — ПШ № 3 імя Я. Касцыцэвіча ў Бельску-Падляшскім. Катэгорыя **16-19 гадоў**. І месца: Наталля Васько — Гайнаўскі беларускі ліцэй; вылучэнне: Юлія Бяганская — Гайнаўскі беларускі ліцэй.

Намінацыя **сачыненне «Беларусь і беларускасць у гісторыі маёй сям'і».** Катэгорыя **13-15 гадоў**. І месца: Магдалена Вайцешык — ПШ у Нараўцы. Катэгорыя **16-19 гадоў**. І месца: Наталля Васько — Гайнаўскі беларускі ліцэй; вылучэнне: Юлія Бяганская — Гайнаўскі беларускі ліцэй.

Намінацыя **мультымедыйная прэзентацыя аб Беларусі.** Катэгорыя **7-12 гадоў**. І месца: Шыман Пранявіцкі — ПШ № 3 імя Я. Касцыцэвіча ў Бельску-Падляшскім. Катэгорыя **13-15 гадоў**. ІІ месца: Аляксандра Кудашэвіч, Мартына Ігнатовіч — ПШ імя Адама Міцкевіча ў Бабіках. Катэгорыя **16-19 гадоў**. ІІ месца: Анна Нікіцюк — Бельскі беларускі ліцэй. **(лук)**

*Лёс беларусаў Беласточчыны*

# Вяртаўся дамоў, бо ўсё хацелі забраць



**Беларусы-рэпатрыянты з Беласточчыны, якія не па сваёй волі ў сярэдзіне 1940-х гадоў пакінулі родныя куткі, паціху адыходзяць у іншы свет. Не паспеў я сустрэцца і пагутарыць з Канстанцінам Пехам, 1926 года нараджэння, які быў родам з вёскі Каракулі, што каля Беластока, а жыў у вёсцы Міроўшчына на Дзятлаўшчыне. Ён шмат мог распавесці пра няпростую рэпатрыяцыю, якую перажылі яго бацькі, ён сам і сястра.**

Пра гэта я даведаўся, калі наведаў вёску Міроўшчына. Бо ехаў па канкрэтным адрасе, шукаючы беларуса-перасяленца Пеха ў гэтай вёсцы. „Майго Кастуся ўжо няма, а я яшчэ жыву”, — сказала жанчына, якая сядзела на надворку каля хаты. Гэтай жанчынай аказалася жонка Канстанціна Пеха.

Завуць жанчыну Алена Адамаўна Пех. „Ваш муж быў родам з Беласточчыны, так?” — пытаюся ў Алены Адамаўны.

— Так, — адказала жанчына. — Ён нарадзіўся і жыў з бацькамі побач з Беластокам, у вёсцы Каракулі. Там мой муж вучыўся, адтуль і паехаў з бацькамі ў пошуках іншай долі. Бо пасля вайны ім пачалі пагражаць і яны пакінулі родную вёску.

— А колькі дзяцей было ў сям'і Пехаў?

— У сям'і Пехаў было двое дзяцей: мой муж і сястра Надзя. Сястра цяпер жыве ў Вільні.

— Скажыце, з Каракуляў Пехі адразу прыехалі на Дзятлаўшчыну?

— Ды не. Бацька майго мужа некалі быў знаёмы з праваслаўным святаром з Саратаўскай губерні, здаецца, яны некалі разам служылі ў войску. Ён яму напісаў пісьмо, у якім распавёў пра сітуацыю, якая адбываецца на Беласточчыне. І святар запрасіў сям'ю Пехаў у Саратаўскую губерню. Яны туды і паехалі.

— А як апынуліся на Дзятлаўшчыне?

— Прыехалі Пехі ў Саратаўскую губерню. Знаёмы святар іх шчыра сустрэў. Яны пачалі паціху абжывацца, бо прывезлі з сабой карову, каня, іншую хатнюю жыўнасць. Бацюшку таго там паважалі, людзі яго добра ведалі, шмат бывала ў яго доме гасцей, сяброў. Хутка на Саратаўшчыне пачалі арганізоўвацца калгасы. І аднойчы да Пехаў завітаў сам старшыня мясцовага калгаса і кажа бацьку майго мужа Аляксандру: „Паслухай, Аляксандр. Харошы ты і працавіты чалавек. Сярод усіх тут расіян ты выглядаеш даволі багатым. Але ўсюды арганізоўваюцца калгасы і ў цябе могуць хутка забраць усё, што ты прывёз з Беларусі. Уцякай хутчэй адсюль, пакуль у цябе не забралі каня, карову і ўсё астатняе, бо застанешся з нічым”. Так сказаў сам старшыня калгаса.

— І Пех-старэйшы яго паслухаў?

— Так, і Аляксандр Пех паслухаў таго старшыню і хуценька выращыў адтуль уцячы на Дзятлаўшчыну, куды пераехала шмат знаёмых беларусаў з іншых вёсак і хутароў Беласточчыны.

— І з Саратаўскай губерні ўсе Пехі адразу прыехалі ў вёску Міроўшчыну?

— Не. Спачатку жылі ў вёсках Ятвезь і Кашкалы, але там ім не спадабалася і яны пераехалі ў вёску Міроўшчына. На Дзятлаўшчыне я пазнаёмілася з сынам Аляксандра Пеха, Канстанцінам. Мы тут і пажаніліся. Мой муж Канстанцін Пех усё жыццё адпрацаваў сталярам у Дзятлаўскай сельгастэхніцы.

— А ці захаваліся якія-небудзь старыя фотаздымкі Пехаў?

— Ды нічога няма. Якія тады маглі быць фатаграфіі? Ніхто нікога не здымаў. У нас нічога не захавалася. Можа ў сястры майго мужа ў Вільні што ёсць, а ў нас няма, — сказала Алена Пех...

Я сфатаграфаваў Алену Пех на лаўцы каля хаты, зрабіў здымак самой хаты і мы развіталіся.

Тэкст і фота **Сяргея ЧЫГРЫНА**

# Хор адборных спевакоў

**Размова з Наталляй КАЗЛОЎСКАЙ, дырыжорам хору царквы Іверскай іконы Багародзіцы з Гомеля, удзельнікам сёлетняга XXXVII Міжнароднага фестывалю царкоўнай музыкі ў Беластоку.**

**— Ці гэта прыход Іконы Іверскай іконы Божай Маці, ці толькі царква пад такім заступніцтвам?**

— Гэта хор у гонар Іверскай Іконы Божай Маці. І прыход таксама.

**— Гэта стары прыход ці новы — ці ён існуе здаўна, ці заснаваны ў апошнія гады?**

— Мы ўжо дваццаць гадоў спяваем у гэтай царкве. Мы пачыналі з таго моманту, калі яе сталі будаваць, калі яе закладвалі; мы спявалі пры яе закладцы.

**— Значыць гэта новая царква. А ў якім годзе яе сталі будаваць?**

— Дакладна сказаць не магу, мабыць дваццаць гадоў таму.

**— Скажыце, калі ласка, хто спявае ў вашым хоры?**

— Спяваюць розныя людзі. Мы, вядома, займаемся адборам спевакоў; гэта не звычайныя прыхаджане, якія захацелі і прыйшлі спяваць у нашым хоры. Ёсць у нас людзі з прафесіянальнай музычнай адукацыяй — каб перадаць усю царкоўную музыку прыгожа. Давялося доўга збіраць гэты састаў і захаваць яго вельмі складана.



**— Ці ўсе яны прафесіяналы?**

— Ёсць людзі, якія не маюць прафесіянальнай музычнай адукацыі, але амаль усе з аснонай музычнай адукацыяй — у каго школа, у каго нешта іншае. Але яны ўсе працуюць у галіне музыкі.

**— Вы выступаеце толькі на набажэнствах?**

— Так, мы спяваем ранішнюю і вячэрнюю службы, у прынцыпе. Калі нас запрашае гомельская епархія, мы з задавальненнем згаджаемся. Вось у нас ёсць найстарэйшая царква Іаана Карманскага, туды часта прыязджае мітрапаліт; мы там выступаем і ён заўсёды рады слухаць наш хор.

**— Вы ў Польшчы ўпершыню?**

— У Польшчы я асабіста была даўно-даўно, але спявала я ў складзе Магілёўскага камернага хору; гэта тады, калі толькі заражджаўся гэты конкурс — тады мы яшчэ спявалі ў Гайнаўцы. А з гэтым хорам яшчэ не.

**— Ці гэты хор бывае недзе...**

— Не, гастрольных выступаў у нас няма. Таму вось мы ездзім на конкурсы, каб, так сказаць, атрымаць такія эмоцыі.

**— У вашым рэпертуары толькі царкоўная музыка, ці нешта больш?**

— Мы хочам прыглянуцца нейкім народным песням, таму што ўжо калектыў больш-менш стабілізаваўся і можна за нешта брацца. Складана знайсці мужчынскія галасы — гэта паўсюдная праблема. Мы зараз хочам спрабаваць нечага ў народным стылі.

**— Як вы дабіраліся ў Беласток?**

— Вы знаеце, у нас выдатны настаяцель царквы, ён любіць музыку, сам любіць спяваць, бацюшкі ў нашай царкве спяваюць шыкарнымі галасамі, ёсць рэдкія галасы, басы, актавісты; і ён таксама любіць калі хор прыгожа спявае, таму нас усяляк падтрымлівае і вось наладзіў нам паездку на конкурс, памог нам выбрацца сюды і мы яму за гэта вельмі ўдзячны.

**— Якія ў вас уражанні ад Беластока?**

— Усё, што мы бачылі, нам вельмі спадабалася; горад прыгожы, зялёны, можа не надта вялікі, але такі мілы.

**— Вялікае Вам дзякуй. Усяго Вам добрага.**

Тэкст і фота **Аляксандр ВЯРБІЦКІ**

## Гушчэвіна — вёска прыгожая

Сярод вёсак Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета Гушчэвіна вылучаецца сваёй адметнай прыгажосцю. Гэта невялікае сяло-вуліцоўка з роўнай асфальтавай маставой і новым тратуарам з брусчаткі. Налічыў я 26 прыгожых драўляных дамоў і яны пераважна з ганачкамі. Я быў захоплены некаторымі з іх, зачараваны іх прыгажосцю. Пры адным доўгім драўляным доме два ганачкі. Адзін драўляны дом абабілі белым сайдынгам. Зараз пасярэдзіне вёскі адзін дом рамантуе варшавяк і вуглы яго ўпрыгожыў цікавымі белымі драўлянымі аздабленнямі на карычневым фоне. У сяле ўсе панадворкі належна задбаныя.

Самыя прыгожыя драўляныя хаты маюць, між іншым, Ірына Зубрыцкая, Алімпія Сачко, Аляксандр Раманчук, Зіна Раманчук, Ян Раманчук і Вера Бароўская. Стаіць бацькоўскі дом св. памяці архіепіскапа Сімана (Раманчука). Цяпер належыць ён унуку бацькі Сімана, Аляксандру, і ён яго яшчэ разбудаваў. Пра сваю родную прыпушчанскую вёску Гушчэвіна архіепіскап Сіман сказаў у інтэрв'ю нашаму тыднёвіку „Ніва” у красавіку 2004 года такія словы: „Усё маё адтуль родам: і мова, і песні, і сум, і радасць”.

Любіць сваю вёску і ганарыцца ёю Анатоль Раманчук, яе пастаянны жыхар і гмінны радны ды маладая солтыс Алімпія Сачко. Гушчэвіна налічвае 49 жыхароў. Лік іх змяншаецца з кожным годам. Пару гадоў таму ў вёсцы была прадуктовая крама ГС, але яе закрылі з-за нерэнтабельнасці. Цяпер гэты будынак можна купіць — ён на продаж. Гушчэвінцы маюць прыгожую памаляваную на карычневы колер драўляную святліцу і драўляную памаляваную на светлы аранжавы колер пачакальню на аўтобусным пасажырскім прыпынку. Пры святліцы знаходзіцца прыстанішча для веласіпедыстаў.

У Гушчэвіне 10 чэрвеня г. г. паспяхова адбыўся беларускі фэст пад лозунгам „І там жывуць людзі” з удзелам нашых айчынных і замежных мастацкіх калектываў. Весела і прыемна было.

## Дэмаграфія Чаромхаўскай гміны

Чаромхаўская гміна — адна з меншых у Гайнаўскім павеце. У ёй 12 вёсак і вёсачак, у якіх пражываюць 3257 чалавек. Найбольшая ў гміне вёскі гэта Чаромха-Асада — яна налічвае 2345 чвлавек, Чаромха-Вёска — 269, Ставішчы — 183, Кузава — 162, Вулька-Тэрахоўская — 86, Баброўка — 59 і Зубачы — 51. Да малых належаць Янцэвічы — 12 жыхароў, Пагулянка і Полаўцы — па 17, Апака-Вялікая — 20 і Бэрэзышча — 35. Зараз у вёсках пражывае многа пажылых людзей. Найбольш рэзка бязлюднымі становяцца вёскі Кузава (за год і адзін месяц паменшала яна ажно, неверагодна, на 17 жыхароў), Ставішчы (на 12), Зубачы (на 10), Чаромха-Вёска (на 8) і Вулька-Тэрахоўская (на 7). Паменшала колькасць жыхароў таксама ў Баброўцы і Бэрэзышчы (адпаведна ў кожнай на 3) ды ў Янцэвічах (на 2).

Шчыльнасць насельніцтва складае 35 чалавек на квадратны кіламетр. І яна большая, чым у суседніх гмінах. На 100 мужчын прыпадае 108 жанчын. Ва ўзроставай групе 80-85 гадоў жанчын утрая больш чымсьці мужчын.

У 2017 годзе ў Чаромхаўскай гміне пажаніліся 17 пар, нарадзілася 32 дзяцей ды памерлі 66 чалавек. Адзінаццаць пар атрымалі медалі „За шматгадовае шлюбнае жыццё” (у гэтым годзе будзе 6 такіх пар).

А як было ў мінулыя гады? Дваццаць гадоў таму ва ўсёй Чаромхаўскай гміне пражывалі 4377 чалавек. —Чаромха–Асада налічвала 2730 жыхароў, Чаромха-Вёска — 518, Кузава — 292, Ставішчы — 285, Вулька-Тэрахоўская — 180, Зубачы — 155, Баброўка — 152 і Янцэвічы — 61.

**(яц)**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Тэатральны фінал школьнага года



Пачынаем канікулы, але яшчэ на адну хвіліну вернемся ў школу. А менавіта вернемся да доўгачаканага дня — завяршэння навучальнага года! У Нарве і Бельску-Падляшскім меў ён таксама мастацкі характар. Апрача ўручэння дыпломаў і ўзнагарод, на якія вучні працавалі цягам дзесяці месяцаў, таксама яшчэ на хвіліну ўдалося ім сабраць гледачоў у школьны свет тэатра.

Вядома, зараз можна ўздыхнуць з палёгкай — канец усялякім кантрольным, экзаменам, іспытам, праверкам. Гэта для ўсіх быў час цяжкай працы, поспехаў, радасці, а часам невялікай няўдачы ці расчаравання, якое можна выправіць у наступным навучальным годзе. Зараз надышоў час, калі можна цешыцца двухмесячным перапынкам і шчаснай лянотай!

### РЭТРАСПЕКЦЫЯ Ў БЕЛЬСКАЙ «ТРОЙЦЫ»

Традыцыйна падвядзенне вынікаў навучальнага года праходзіла ў Бельскім доме культуры. Сёлета магчыма «тройка» ўстанавіла рэкорд наведвальнасці, які быў заслугай не толькі саміх вучняў і настаўнікаў, але асабліва бацькоў.

Вучні ў кароткіх спектаклях паказалі цэлую даўжэзную гісторыю свайго горада. Можна было пазнаць гісторыю бельскай ратушы, пабываць на танцах з яўрэямі, якія калісці складалі значную частку насельніцтва горада. А нават пазнаць таямнічую гісторыю марсіян, якія калісці пакінулі кругі ў збожжы на адным з палёў у Градалях. Спектаклі былі не толькі смешныя, але і павучальныя. Можна было даведацца пра шматкультурнасць Бельска, пра яго гісторыю, а таксама атрымаць параду: каб не ззелянець ад злосці як марсіяне варта слухаць песень Зэнка Мартынюка з Градалёў.

### СВОЙСКАЯ НАРВА

Тэатр са школы ў Нарве чытачы «Зоркі» напэўна маглі бачыць на розных мерапрыемствах. Маладыя акцёры са сваімі спектаклямі ездзілі і ў Гайнаўку, і ў Беласток. Усё-такі ў Нарве мастацкае падвядзенне навучальнага года гэта вялікая гмінная падзея. Адна з гэтых, на якую прыходзяць і войт, і бацюшка і, вядома, абавязкова бацькі. Але вучні нават перад такой публікай не хваляваліся і цяжка было злавіць нейкую большую памылку. А самым важным у спектаклі, у якім галоўную ролю солтыса згуляў Міхал Тапалянскі, было тое, што можна было пасмяяцца з нас саміх.





— Мне, як солтысу, трэба вырашаць праблемы, з якімі прыходзяць да мяне людзі, — сказаў Міхал. — Гэта такія забаўныя гісторыі з падляшскай вёскі. Публіка добра іх успрымае, часта смяецца.

Падчас спектакля не было чуваць, каб хтосьці на кагосьці сыкаў «цііііі». Усе ўважліва прыглядаліся вучням на сцэне. Па публіцы не было таксама відаць абыякавасці да пабачанага. Публіка адчувала эмоцыі школьнага тэатра. А эфект гледачы ўзнагародзілі бурнымі воплескамі.

**Тэкст і фота Улі ШУБЗДЫ**

## УВАГА КОНКУРС! № 26-18

Незвычайны ён касцёр
каля плота распасцёр.
Язычкі лісточкаў бачыш,
ён зялёны ды гарачы.
Дакранешся і агонь
апячэ табе далонь.
К......

(Сустрачанская газета «Бусел»)

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку" да 8 ліпеня 2018 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

## Загадкі з роднай хаткі

Адказ на загадку № 22-2018: аквалангіст (nurek). Узнагароду, майку з лагатыпам «Сустрэч „Зоркі"», выйграў Дам'ян Карнілюк з Бельска-Падляшскага. Віншуем!

# З бацькамі гавару на падляшскай гаворцы!



Сяброўская гутарка з **Колем Здрайкоўскім**, падвойным лаўрэатам прадметнага конкурсу па беларускай мове, фіналістам па нямецкай мове, танцорам «Падляшскага вянка», акцёрам школьнага беларускага гуртка «Гульня ў тэатр», рэдактарам сустрачанскай газеты «Бусел».

**«Нараўчанская ластаўка»: — Коля, што прывяло Цябе да вывучэння беларускай мовы? Гэта рашэнне бацькоў ці можа нешта іншае?**

Коля Здрайкоўскі: — Я пачаў вывучаць беларускую мову ў Самаўрадавым прадшколлі № 14 у Беластоку. Запісалі мяне бацькі, для якіх вельмі важнай справай было, каб я развіваўся ў беларускай культуры. Пасля я пайшоў у «чацвёрку», дзе далей вывучаю беларускую мову.

**«Нараўчанская ластаўка»: — Ці ў штодзённым жыцці Ты карыстаешся беларускай мовай? Ці толькі на ўроках?**

Коля Здрайкоўскі: — Так, але гэта не беларуская літаратурная мова. З бацькамі я гавару на падляшскай гаворцы.

**«Нараўчанская ластаўка»: — Адкуль Твая зацікаўленасць нямецкай мовай?**

Коля Здрайкоўскі: — Мая сям'я жыве ў Нямеччыне. Мая цёця выйшла замуж за немца. Яны там жывуць, у іх двое дзяцей. У нас добры кантакт і мы шкадуем, што яны не жывуць у Польшчы. Я таксама думаю, што нямецкая мова спатрэбіцца мне ў будучыні.

**«Нараўчанская ластаўка»: — Чаму пачаў Ты прымаць удзел у прадметных конкурсах?**

Коля Здрайкоўскі: — Я хацеў праверыць, які мой узровень ведання беларускай мовы. Ну... і атрымалася, што добры.

**«Нараўчанская ластаўка»: — Хто для Цябе герой беларус?**

Коля Здрайкоўскі: — Шчыра сказаць, я раней ніколі пра гэта не думаў. Але думаю, што такім героем ёсць для мяне мой тата, бо ён зашчапіў беларускасць у нашай сям'і.

**«Нараўчанская ластаўка»: — Твой бацька — вядомы мастак. Ці хочаш пайсці яго следам?**

Коля Здрайкоўскі: — Вядома, хацеў бы, але Бог не даў мне такога таленту.

**«Нараўчанская ластаўка»: — А чым займаешся ў вольны час, што Цябе цікавіць?**

Коля Здрайкоўскі: — У вольны час, калі толькі магу, я гляджу спорт, чытаю кніжкі, таксама вельмі люблю тэлесерыял у інтэрнэце „Nieprzygotowani"...

**«Нараўчанская ластаўка»: — Пра што ён?**

Коля Здрайкоўскі: — Пра ліцэістаў, якія не адрабілі дамашніх урокаў і кідаюцца на глыбокія воды імправізацыі...

**«Нараўчанская ластаўка»: — Ага! Дзякуем за цэнную падказку...**

Інтэрв'ю апрацавала **Клаўдзія Галінская**, Гімназія № 7 у Беластоку.

**Фота Ганны Кандрацюк**

# Чэмпіянат свету – Расія-2018



Гэтай падзеяй жыве цэлы футбольны свет. Усе балеюць за сваю каманду. А пра што тут ідзе? Вядома! З 14 чэрвеня па 15 ліпеня ў Расіі праходзіць Чэмпіянат свету па футболе. Матчы адбудуцца ў 12 месцах: у Маскве на стадыёнах Лужнікі і Адкрытыя, Екацярынбургу, Санкт-Пецярбургу, Растове, Самары, Валгаградзе, Сочы, Казані, Саранску, Калінінградзе і Ніжнім Ноўгарадзе. У турніры ўдзел прымаюць 32 каманды: 14 з Еўропы, 3 з Паўночнай Амерыкі, 5 з Паўднёвай Амерыкі, 5 з Афрыкі і 5 з Азіі.

Ёсць чатыры каманды за якіх я балею. Першая — гэта вядома, Польшча. Наша краіна будзе іграць у групе «Х» з Сенегалам, Калумбіяй і Японіяй.

Наступная каманда гэта Францыя, якая зайграе ў групе «Ц» з Аўстраліяй, Перу і Даніяй. Балею таксама за Аргенціну з групы «Д», у якой яшчэ Ісландыя, Харватыя і Нігерыя.

Апошняя каманда за якую я балею — гэта Нямеччына. «Ді Маншафт» знаходзіцца ў групе «Ф» з Мексікай, Швецыяй і Паўднёвай Карэяй.

Зараз у нас XXI выпуск Чэмпіянату свету па футболе. Ён адбываецца кожныя чатыры гады, кожны раз у іншай краіне. Турнір распальвае страсці і аб'ядноўвае балельшчыкаў. Як большасць фанатаў футбола, я буду глядзець кожны матч у тэлебачанні.

**Тэкст Коля Здрайкоўскі,**
*Бусел, ПШ № 4 у Беластоку*

(Байкі сярэднявечнай Арменіі)

# Абачлівы конь

Знараві́ўся, збунтаваўся конь. Ён скінуў гаспадара з хрыбта і пагнаўся гэн, на волю!

І пакуль ён блукаў па свеце. Высачыў яго леў і хацеў з'есці. Конь ледзь уцёк ад гібелі. Бяжыць, бяжыць — а тут мядзведзь. Заступіў касалапы каню дарогу і кінуўся з лапамі.

— Папаўся, браток, у чорны лясок! — зароў мядзведзь.

І тут таксама ледзь-ледзь пашанцавала збегчы. Кінуўся конь у лес — а там люты воўк і падобныя яму. Усе беднага каня з'есці хочуць! Адумаўся конь і вярнуўся да свайго гаспадара. Не дзеля корму, а дзеля спакою — каб не дрыжаць і ўцякаць ад лютых звяроў.

*(пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк)*

## Польска-беларуская крыжаванка № 26-18

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 22-2018:**

Сук, тло, маг, мост, ара, аўтаспын, аўторак, прыгода, на, дуля, лета. Смех, апад, маўр, жоўты, стог, тарот, сад, шапка, чары, ганак.

Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі **Віялета Смалюк, Марыя Варанчкук** з Арэшкава, **Магда Драздоўская, Аксана Юрчук** з Міхалова, **Наталля Петручук, Оля Хіліманюк** з Нарвы. Віншуем!





# «Пікнік з беларусам» шосты раз

Звыш пяць гадоў назад настаўнікі і бацькі вучняў Комплексу школ з дадатковым навучаннем беларускай мове ў Гайнаўцы арганізавалі Аб'яднанне «Наша школа». Аб'яднанне стала ладзіць мерапрыемства «Пікнік з беларусам» і ад белліцэя пераняло арганізацыю Беларускай гавэнды і Мастацкіх сустрэч школьнікаў. Старшынёй Аб'яднання «Наша школа» ад пачатку з'яўляецца настаўнік беларускай мовы Ян Карчэўскі і менавіта ён арганізаваў чарговы, ужо шосты «Пікнік з беларусам». Мерапрыемства ўдала прайшло 8 чэрвеня на школьнай пляцоўцы, якая штодзень з'яўляецца аўтастаянкай. Дашкольнікі, вучні і гайнаўскі калектыў «Метро» ўдала выступілі на сцэне, перад якой танцавалі дзеткі і моладзь. Публіка, якую саставілі дашкольнікі, вучні, настаўнікі і жыхары горада, доўга захаплялася беларускімі выступленнямі, падчас якіх перш за ўсё гучалі народныя і сучасныя песні. Дзякуючы гукаўзмацняльнікам песні разыходзіліся далёка па-за школьную тэрыторыю і манілі гайнавян прыйсці на беларускае мерапрыемства, дзе настаўнікі частавалі выканаўцаў і публіку каўбаскамі з грыля.

Гайнаўская моладзь *беларусам* называе белліцэй і белгімназію і таму мерапрыемства называецца «Пікнікам з беларусам». Пікнік на свежым паветры адкрыты на ўсіх жыхароў горада, хаця перш за ўсё цікавы ён дзеткам і моладзі. 8 чэрвеня мелі яны магчымасць адчуць атмасферу, якая пануе сярод белліцэістаў і белгімназістаў. З умовамі вучобы ў ліцэі гімназісты мелі магчымасць пазнаёміцца ў час Дзён адчыненых дзвярэй школы. «Пікнік з беларусам» адкрыў старшыня Аб'яднання «Наша школа» Ян Карчэўскі, які пазней вёў мерапрыемства з вучаніцай Дамінікай Пуц. Заказвалі яны выступленні спевакоў, танцораў, музыкантаў, акцёраў. Сабраным спадабалася тэатральная пастаноўка на беларускай мове.

— Тут адбываецца інтэграцыя дзетак, моладзі і дарослых жыхароў Гайнаўкі ў атмасферы талерантнасці, знаёмства з беларускай культурай і нашымі традыцыямі. Вучні з Гайнаўкі і Нараўкі прымалі ўдзел у футбольных спаборніцтвах у Новым Сончы, змагаючыся з маладымі футбалістамі з іншых краін і дабіваючыся там поспехаў. Цяпер дэлегацыя з нашага партнёрскага павятовага горада Новы Сонч ёсць тут з намі. Наша супраца стварае таксама перспектывы для супрацоўніцтва нашай моладзі, — сказаў староста Гайнаўскага павета Міраслаў Раманюк і дабавіў, што ў час «Пікніка з беларусам» у наступным годзе школьны будынак белліцэя будзе ўжо прыгожа адрамантаваны (цяпер якраз праводзіцца ўцяпленне будынка).





■ Староста Гайнаўскага павета Міраслаў Раманюк; на другім плане вядучыя — Ян Карчэўскі і Дамініка Пуц

Дырэктар Комплексу школ з дадатковым навучаннем беларускай мове ў Гайнаўцы Ігар Лукашук заявіў, што ў Аб'яднання «Наша школа» ёсць большыя магчымасці раздабываць вонкавыя сродкі на арганізацыю мерапрыемстваў, чым у белліцэя і аб'яднанне паспяхова прыцягвае сродкі для пікніка. У белліцэя і белгімназіі ёсць затое большыя арганізацыйныя магчымасці, чым у самога аб'яднання і дзве гэтыя ўстановы папаўняюцца падчас ладжання мерапрыемстваў адрасаваных да дзетак і моладзі.

— Падчас «Пікніка з беларусам» адбываецца прамоцыя белліцэя і беларускай культуры. Пікнік накіраваны да ўсіх жыхароў Гайнаўкі і мае на мэце паказаць мастацкую дзейнасць ліцэістаў і гімназістаў для бацькоў, дашкольнікаў і вучняў іншых гайнаўскіх школ, якія ў будучыні могуць паступіць на навуку ў наш белліцэй, — сказаў дырэктар белліцэя Ігар Лукашук.

— Ідэя пікніка ўзнікла звыш 5 гадоў таму назад, калі было заснавана Аб'яднанне «Наша школа». Бацькі нашых вучняў і настаўнікі рашыліся арганізаваць на свежым паветры «Пікнік з беларусам». Спачатку мы здабывалі сродкі ад самаўрадаў, а пасля сталі выступаць за імі ў Міністэрства ўнутраных спраў і адміністрацыі, якое з'яўляецца галоўным спонсарам сённяшняга пікніка. На арганізацыю пікніка атрымалі мы сродкі таксама ад Павятовага староства і Управы горада. Ладзім нашу імпрэзу таксама ў супрацоўніцтве з управай Гайнаўскай вясковай гміны і Гайнаўскім домам культуры, — сказаў арганізатар пікніка Ян Карчэўскі.

Выступы падчас пікніка распачалі дашкольнікі з трох прадшколляў. Малечы з беларускага калектыву «Калебка» Садка № 1, апранутыя ў стылізаваную на народную вопратку, займальна заспявалі беларускія песні. Пераапрануўшыся за жывёл, дзеткі па-акцёрску паказалі па-беларуску пастаноўку «Рукавічка». Дзетак да выступаў падрыхтавалі настаўніцы Міраслава Ніканчук, Ала Супрун і інструктар народных танцаў Вольга Вілюк.

Калектыў «Сундучок» з Непублічнага прадшколля імя свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Гайнаўцы цікава і адважна запрэзентаваўся з песнямі на дыялектнай мове.

— Я вучу дзетак спяваць нашы песні на гаворцы. Спявалі іх у нашых вёсках у мінулым, — заявіла мастацкі інструктар Паўліна Скепка з гайнаўскага праваслаўнага прадшколля.

Цікава і адважна выступілі таксама дзеткі з Прадшколля № 3 у Гайнаўцы, якіх рыхтавала настаўніца Агнешка Панасюк. Займальна заспявалі цудоўныя беларускія песні дзве вучаніцы Пачатковай школы № 3 у Гайнаўцы Зося Філіпюк і Вольга Мілішэўская, якіх падрыхтавала настаўніца беларускай мовы Марыя Крук. Олі Мілішэўскай і яе бацьку Міраславу Мілішэўскаму спадабалася атмасфера пікніка, дзе апрача выступаў дзеткі маглі пагуляць пад музыку і з'есці каўбаскі з грыля.

— Я пастаянна выступала падчас Конкурсу беларускай песні ад імя Студыі песні ГДК, як салістка і з калектывам студыі і дабівалася падчас гэтага конкурсу многіх поспехаў. Цяпер спявала ад імя сваёй школы, гайнаўскай «тройкі», якая мне вельмі падабаецца, — заявіла Зося Філіпюк.

Белліцэіст Яцак Дружба ўдала зайграў на акардэоне вядомыя беларускія мелодыі. Многа апладысментаў атрымалі пасля выступу ў дуэце настаўнік фізікі ў белліцэі Дарыюш Мусюк і яго дачка Наталля, якая спявае ў школьным калектыве «Знічка».

— Калі я быў вучнем Гайнаўскага белліцэя, выступаў у школьным музычным калектыве і нават мы пачалі рыхтавацца да «Басовішча», але ўсё ж не атрымалася заспяваць на Фестывалі музыкі маладой Беларусі. Спецыяльна на сённяшні пікнік мы з Наталляй падрыхтавалі некалькі песень. Буду таксама акампанаваць на гітары, — сказаў Дарыюш Мусюк.

Усе выканаўцы атрымалі ад арганізатараў пікніка невялікія падарункі, а вядучыя, настаўнік Ян Карчэўскі і Дамініка Пуц правялі міні-конкурс. Падчас яго вучні адказвалі на пытанні датычныя, між іншым, пісьменнікаў Беларускага літаратурнага аб'яднання «Белавежа», яго сёлетняга юбілею і нашага тыднёвіка «Ніва». Пераможцам аказалася вучаніца Магдалена Мішчук, лаўрэатка прадметных конкурсаў па беларускай мове і гісторыі. Публіку весяліў калектыў «Метро» з Гайнаўкі, лідар якога Данель Сакоўскі заахвочваў да гульняў пад гукі музыкі яго гурта.

— Зараз мы перш за ўсё іграем на вяселлях. Забавы ў наваколлі Гайнаўкі цяпер арганізуюцца вельмі рэдка, а штораз больш моладзі з Гайнаўкі і наваколля ездзіць на танцы ў Беласток. Цяпер некаторыя калектывы перарабляюць нашы беларускія даўнія песні на новы лад. Мы аднак трымаемся традыцыйнай аранжыроўкі, каб захаваць клімат васьмідзясятых гадоў, калі з беларускімі творамі выступалі нашы бацькі. Мой бацька выступаў у адным з гайнаўскіх вакальна-інструментальных калектываў, а я з сябрам пераняў частку яго даўняга рэпертуару. Тут, каля белліцэя, вельмі добрая атмасфера і нашы песні спяваем для сваёй публікі, — гаварыў Данель Сакоўскі.

Займальнымі атрымаліся вакальныя выступы гайнаўскіх белліцэістаў сола, у тэрцэце і калектыву «Знічка», у якім удала спяваюць белліцэісты і белгімназісты.

— Прэзентуем мы сёння разнародны рэпертуар, каб падабаўся дзеткам, моладзі і старэйшай публіцы, паколькі сённяшняе мерапрыемства адкрытае на жыхароў Гайнаўкі. Адышлі са «Знічкі» выпускнікі белліцэя і ў наступным школьным годзе будзем папаўняць састаў калектыву, — заявіла музычны кіраўнік «Знічкі» Бажэна Вінцонак, якая з калектывам працуе звыш дваццаці гадоў.

Публіку захапіў таксама танцавальны калектыў Комплексу школ з дадатковым навучаннем беларускай мове ў Гайнаўцы, з якім звыш года ўмела займаецца інструктар танцаў Вольга Вілюк.

— Кіраўнік нашага танцавальнага калектыву Вольга Вілюк — інструктар патрабавальны. Стараецца яна дакладна вучыць нас розным дэталям паасобных танцаў і стварае добрую сямейную атмасферу ў калектыве. Хочацца нам прыходзіць на рэпетыцыі і з ахвотай выступаем з народнымі беларускімі танцамі перад публікай, — гаварыла танцорка Дар'я Місяюк.

Спадарыня Вольга Вілюк пахваліла членаў свайго танцавальнага калектыву за ангажаванасць падчас рэпетыцый і выступаў. Удакладніла яна, што танцавальны калектыў выступіць падчас пікніка з народнымі танцамі ў яе аўтарскай харэаграфічнай апрацоўцы, а адзін танец будзе выкананы пад гукі песні ў выкананні «Знічкі». Усе танцы калектыў запрэзентаваў па-акцёрску і захапіў публіку цікавай харэаграфіяй.

Тэкст і фота
**Аляксея МАРОЗА**

Аповесць вылучаецца тым, што падзеі адбываюцца, калі паўстанне ідзе на спад, ворагі рашуча актывізаваныя, а супраціў фактычна паралізаваны. Але і ў такіх варунках змагары ўсё яшчэ вераць, што магчыма сабраць сілы і паўстанне ізноў успыхне. Твор Сакрата Яновіча спрыяе гераізацыі, рамантызацыі старонак гісторыі, дзе праз сутыкненне характараў выяўлены і праўдзівае ўзвышэнне чалавечага духу і падзенне ў прорву здрады. Той час, выступіўшы надзвычай прыдатным чыннікам станаўлення чалавека, паклікаў да жыцця асоб гераічных і адначасна спарадзіў іхніх антыподаў.

Ад самага пачатку твора, у зачыннай рэпліцы, што пазначае час дзеяння, адчувальны рамантычны пафас, душэўная ўзрушанасць, захопленасць гераічнымі падзеямі: „Яшчэ ўвосень 1863 года зарыва Студзеньскага паўстання ў Беларусі ўсё палыхала. Беларусы чакалі вясны, каб, узяўшы самаробную зброю, а таксама косы і сякеры, зноў ісці ваяваць. За волю — за Беларусь без цара і паноў. Так мела быць". Рамантычныя вобразы зарыва, якое мусіць спапяліць няволю, усё нялюдскае, варожае, вясны як надзеі на лепшае, на адраджэнне народнага духу, воблікі змагароў-касінераў — усё гэта служыць гераізацыі тагачасных падзей. Аўтар не асабліва зважае на гістарычную дакладнасць, бо хто ў тыя часы называў сябе беларусамі — толькі адзінкі. Пра якую Беларусь магла ісці размова тады, у тым народзе, здушаным дзесяцігоддзямі панавання чужынскай улады, у краі, які страціў нават свой назоў, а люд ягоны, не асабліва зважаючы на афіцыйны — Северо-Западный край, каб неяк пазначыць сваю прыналежнасць гэтай зямлі, называў сябе тутэйшым. Апошняя фраза вяртае да рэальнасці: „Так мела быць". Ды так не сталася. Ужо тут пазначана супярэчнасць. Гэтыя словы пасуюць не толькі да самога паўстання, але ўспрымаюцца як погляд пісьменніка-патрыёта на тыя падзеі з вышыні часу, як трактаванне гісторыі ў нейкім пажаданым ладзе, якога не існуе.

Сюжэт аповесці будуецца не столькі на апісанні падзей, колькі на сутыкненні характараў. У цэнтры вобраз Кастуся Каліноўскага. Яму супрацьпастаўлена шматлікая варожая сіла. Твор выдатна працуе на тварэнне міфа пра нацыянальнага героя. І хоць вобраз „абмаляваны даволі эскізна, мала паказаны ў дзеянні", усё ж кіраўнік паўстання прысутнічае ў аповесці ад самага пачатку, калі чытач яшчэ не сустракаецца з ім, бо ўсякая згадка пра тыя падзеі ў свядомасці беларусаў знітавана з асобай Кастуся Каліноўскага. Герой прысутнічае ўвесь час, нават рэальна адсутнічаючы на старонках твора. Пра яго, пазначанага таямніцай, няўлоўнага, думкі ворагаў, а іх процьма: „начальнік царскай разведвальнай службы палкоўнік Лосеў, хітры, бязлітасны, вопытны. Процьма яго сышчыкаў, канфідэнтаў, агентаў, узброеных казакаў... У іх адна турбота: як дашукацца сэрца паўстання. І ўсё цясней сціскаецца варожы абруч вакол Каліноўскага". Яго, не зусім разумеючы пра каго вядзецца, выдае на згубу слабавольны Парфіяновіч, на яго ладзіцца праўдзівае паляванне, расстаўляюцца сеткі. І калі на кватэры сувязной Марыі Грыгатовіч з'яўляецца малады чалавек, не толькі гаспадыня, але нават самы ўдумлівы чытач не абавязкова зразумее, што гэта ён, Кастусь Каліноўскі, схаваны пад прозвішчам Макарэвіч. Аўтар не падае ні аднаго штрыха да партрэта, ніяк не падказвае, хто насамрэч прыходзіць на Зарачаны. Такая своеасаблівая аўтарская канспірацыя. Учынкі, паводзіны героя і стаўленне да яго з боку іншых персанажаў — асноўны прыём раскрыцця характару. Першая ў гэтым шэрагу Марыя Грыгатовіч, якая не хавае прыязнасці да нечаканага госця: „Усцешылася яна не толькі дзеля гасціннае ветлівасці". Стомленая, змучаная пастаянным напружаннем, рызыкай, страхам, жанчына без пярэчання бярэцца выканаць ягонае заданне, што сведчыць пра павагу, прызнанне важнай ролі ў змаганні.

Важную ролю іграе ў творы вобраз лесніка Адама Вільдовіча, актыўнага ўдзельніка супраціву, які з'яўляецца сувязным, захоўвае „Мужыцкую праўду", а ў няпростым часе, калі казакі атакавалі лагер паўстанцаў, ратуе параненага Макарэвіча ад немінучае гібелі. Ягоная характарыстыка шмат дадае

# ІМЧЫЦЬ СЯРЭБРАНЫ ЯЗДОК

Альжбета КЕДА

**Адзін з першых празаічных твораў нашай каліноўскіяны — аповесць Сакрата Яновіча „Сярэбраны яздок", у якой „удала спалучаюцца гістарычная праўда і мастацкая выдумка" (Адам Мальдзіс). Аповесць прыйшла да беларускага чытача сорак гадоў таму: у 1978 годзе ў выдавецтве „Мастацкая літаратура" была выдадзена першая ў Беларусі кніга пісьменніка, у якую разам з апавяданнямі ўвайшоў і гэты твор.**






Фота Міры ЛУКШЫ

да ўяўлення пра кіраўніка паўстання. Ляснік звяртае ўвагу на вусны „Макарэвіча — поўныя дабрыні і адначасова — зацятасці!.. Відаць, што добры ён чалавек, ахвярны для справы і, вядома, адпаведна асцярожны. Крыху дзіўны! Не тое, што асцярожны ён, але дзіўны...". Падаецца дзіўным, незразумелым, загадкавым, не ўступае ў размову, бо не мае права рызыкаваць.

Зразумела, што ў творы пра гераічную старонку айчыннай гісторыі прысутнічае ідэалізацыя вобраза Кастуся Каліноўскага. Падкрэсліваецца ягоная смеласць, дабрыня, здольнасць да канспірацыі. Таму даволі працяглы час ён няўлоўны для ворагаў: „У Вільні сышчыкі збіваліся з ног: мужчына, які заходзіць да Марыі Грыгатовіч, прапаў, нібы выдумка".

## Цана прагі вольнасці

У аповесці створаны вобразы і тых, хто не быў на вяршыні вызвольнага руху, чорнарабочых змагання, чый уклад у агульную справу, на першы погляд малазначны, але на іх плячах трымалася многае. І гінулі яны, хай не ў адкрытых баях, але аддаючы жыццё за справу вызвалення. Так гіне Андрэй Гімік з Махнача, якога нават пахаваць па-людску не выпала. Ягоная смерць выклікае ў душы Марыі Грыгатовіч пытанні, што роспачна гучаць у цёмнай ночы і не маюць адказу: „Божа, чаму гэта так трэба, каб людзі гінулі за праўду?! Чаму гэта столькі бязлітасці ў праўды? Чаму свет належыць да забойцаў?.. Калі за праўду трэба забіваць, дык ці ёсць яна? Ці не выдумка гэта?..". Гэтыя пытанні, укладзеныя ў вусны кабеты, не могуць не хваляваць і самога аўтара, і чытача. Гэта другая смерць, якую сустракаюць ляснік і сувязная на сваім няпростым шляху, праз дрымучы лес і цёмную ноч. Тут таксама выразнае супрацьпастаўленне. Калі смерць дзядзькі з Махнача выклікае жаль, спачуванне, роспач, то смерць шпега, які высачыў Марыю Грыгатовіч, — агіду і пагарду: „Скончыўся, сабака!" Без жалю пакідаюць яго „ў наслоенай гурбе, ваўкам на спажыву".

Сакрат Яновіч выкарыстоўвае сон як сродак раскрыцця душэўнага стану героя, які выконвае мастацка-псіхалагічную ці сюжэтна-кампазіцыйную функцыю, дапамагае глыбей раскрыць характар героя. У кароткі сон Макарэвіча ў заснежанай пуні Антошкі Яновіча ўрываецца воўчая пагоня. „Прачнуўся пры першых пеўнях, успацелы, даходзіў да памяці пасля жахлівага сну: ваўкі адбягаліся ад яго ў Лапіцкія яры". Воўчая зграя, што нясецца ўслед героя, гэта і ёсць тая варожая сетка паліцэйскіх, выведнікаў, здрайцаў, што ідуць па слядах. Якраз напярэдадні, даведаўшыся ад каваля ў Пілатоўшчыне пра павешаных сялян, кіраўнік паўстання думаў не толькі пра складаную сітуацыю, але і выпрацоўваў стратэгію на далейшае змаганне: „Патрэбны ўсё-ткі невялікія атрады. Яны павінны хавацца па сухіх грудах, пабудаваўшы на іх падземныя кватэры — пад карэннямі дрэў, паблізу крынічак. Ваяваць трэба не бітвамі; народ яшчэ не даспеў да ўсеагульнага парыву. Вайну неабходна расцягнуць на гады...". Гэтым разам ён здолеў выбрацца, вярнуцца ў Вільню. Але там ужо пастка закрываецца.

У сне Марыі Грыгатовіч адлюстравалася ўсё, што давялося перажыць у тым пакутлівым падарожжы, усе смерці, жахі. Галоўны ў сне ён, Макарэвіч, чыё заданне выконвала, і каму мусіць перадаць звесткі. Сон падказвае гераіні смяротную небяспеку, прадказвае: яна ўсё далей аддаляецца ад яго, а ён кліча: „Марыся, Марылька, Марысенька!.." (выразная алюзія на верш „Марыська, чарнаброва галубка мая") і прагне вестак. Сувязная пераказвае іх, не страціўшы ні слова і папярэджвае: „За вамі сочаць. Ратуйцеся!". Адказаў: „Ведаю. Такая пара ўжо настала, Марыся".

Перш, чым распавесці пра сон паліцмайстра, аўтар папярэджвае аповед фразай: „З Прончыкам гаварыў чалавек, у якога адна мэта ў жыцці: каго і як акруціць". Поспех ягонае працы залежыць ад гэтага ўмельства. Круцельства не толькі спосаб існавання, стасункаў з людзьмі. Яно глыбока ўвайшло ў свядомасць, падсвядомасць. Таму ўваходзіць і ў сон. Пастаяннае адчуванне прыніжанасці ад тых, хто ім кіруе, спараджае імкненне ўзяць рэванш, узвысіцца. У тым сне паліцмайстар акручвае самога цара. Негатыўная семантыка сну выварочвае на паверхню комплексы героя, прабуджэнне спараджае ў душы прыкрасць, неспакой.

Блізкі да сну стан трызны, мроі героя. Ён таксама адыгрывае значную мастацка-псіхалагічную ролю. Уладак Прончык, на першы погляд, звычайны селянін, працаўнік, а насамрэч асоба гераічная. У ягонай душы жыве рамантычная прага вольнасці, ён верны ідэі змагання, ніколі не ступіць на шлях здрады. Таму так занепакоены герой прыказам з'явіцца да паліцмайстра, бо ведае, што яго хочуць завербаваць, зрабіць даносчыкам.

Прончыку ў бляску на небакраі мроіцца „штосьці сумнае і адначасна загадкавае. Уваччу ажно мройна ад прывіду, што вось выходзяць з лясоў незлічоныя сілы — пушчы, з пералескаў ды з курганоў векавечных, з усіх бакоў, паблісквaючы зброяй, у баявых парадках легіёны свабоды. Ідуць яны, пакуль нябачныя, але ўжо відаць, як водбліск ад іх пранізвае прастору, халодны і мужны, ад якога вочы брыняюць слязьмі радасці, а цела, здранцвелае ад урачыстасці, знерухомела. Глуха — і бляск, толькі бляск, бляск!

...І станем беларусамі,
Вольнасці сынамі!"

Якіх вышынь сягае думка героя! У гэтай мроі ён адчувае сябе шчаслівым, асабістае шчасце звязвае са свабодай у Краі. І вось яны сутыкаюцца — дзве асобы, выразна супрацьпастаўленыя між сабою. Хто каго здолее перамагчы ў тым двубоі? Ці зможа паліцмайстар, майстар круцельства, гэтым разам зрабіць ахвярай сумленнага чалавека? Прончык падрыхтаваны да размовы. Больш дасведчаны за яго Адам Вільдовіч падказвае, як паводзіць сябе. І тыя парады дапамагаюць.

## Здрада і смерць

Яскрава раскрыты ў творы матыў здрады. Ідэолаг яе палкоўнік Лосеў, супрацоўнік тайнае выведкі. Здрада мае мноства воблікаў. Вось як Лосеў тэарэтызуе на гэтую тэму: „У расканспіраванні цэнтра, што кіруе паўстаннем, патрэбна здрада! Вялікая здрада! А гэта зусім што іншае, чымсьці прадажніцтва. Здраду могуць спарадзіць ідэйныя разыходжанні або раптоўны крах веры ў сэнс ахвяры...".

Супрацьпастаўлены Лосеву паўстанец Парфіяновіч, чалавек зусім малады, варты жалю, не падрыхтаваны да той складанай сітуацыі, у якую трапляе. Псіхалагічны стан героя раскрыты праз ягоныя ўчынкі. Напачатку хоць і ведае, што яго чакае шыбеніца, гэта свабодны чалавек, бо мае чыстае сумленне. Але чалавек слабы. Слабасць праяўляецца ў эмацыянальнай нястрымнасці, няўпэўненасці, ягоныя хістанні наскрозь

працяг ☞ 10

9 ☞ працяг

## СЯРЭБРАНЫ ЯЗДОК

бачыць палкоўнік Лосеў. Ад пачатку відавочна, хто выйдзе пераможцам у сутыкненні гэтых двух персанажаў. Хітры, загартаваны Лосеў, двурушнік, які ведае, як выцягнуць патрэбную інфармацыю, падкупляе словамі пафаснымі, ілжывымі: „Размаўляю з чалавекам, які дзеля ідэі гатоў ахвяраваць уласным жыццём! З чалавекам, якога шаную за гэта і, адначасова, шкадую, што ваша справа пазбаўлена рэальных шанцаў. Паверце мне!" Ідзе на свядомы падман, перакручваючы паняцці, падмяняючы праўду слоўнай эквілібрыстыкай: „Здрада нечаму меншаму дзеля ратавання большага называецца палітыкай". Урэшце, не вытрымаўшы такога наступу, Парфіяновіч, як згадвае Лосеў пазней, „расклеіўся". Выдаўшы не толькі вядомае яму імя, але і пароль, жахаецца таго, што зрабіў і кідае ў твар свайму інквізітару: „Будзьце пракляты!", на што той спакойна іранізуе: „Цікава, хто з нас — страшнейшы?!" Звязвае сваю душу ланцугамі здрады, паверыўшы, што атрымае магчымасць жыць. Падмануты, гіне на шыбеніцы.

У фінале сюжэтнай лініі аповесці пакаранне смерцю Кастуся Каліноўскага. Кожная фраза адшліфавана, ні аднаго лішняга слова. І тут таксама аўтар выкарыстоўвае прыём супрацьпастаўлення. Гармонія і спакой у прыродзе, сінь і святло неба і жорсткія справы зямныя, людскія, падрыхтоўка да загубы чалавека:

„На Лукішскай плошчы паставілі за ноч шыбеніцу.

Блакітны ранак над Вільняй.

Ля дамініканскай турмы — суровы вайсковы канвой".

Сакрат Яновіч падае не проста гібель аднаго чалавека, а піша пра трагедыю з элементамі ўзвышанага, уздымае яе да ўзроўню нацыянальнай катастрофы, што разрывае, паварочвае назад, адкідае далёка наўзбоч гістарычнага руху працэс адраджэння нацыі: „На шыбеніцу — другога па богу ў покуце мужыцкай Белай Русі. На шыбеніцу яе будучыню, каб больш ніколі не мела яе...".

Следам выказана эмацыянальна-насычанае, балючае пачуццё па гэтай вялікай страце: „І зашчыміць сэрца, забаляць грудзі!" У каго зашчыміць? У аўтара, патрыёта Беларусі, што разумее веліч асобы Кастуся Каліноўскага, і ў юнага чытача-патрыёта, які, магчыма, упершыню адкрыў для сябе мастацкую праўду пра адну з самых велічных постацей у пантэоне беларускай славы.

Як пасляслоўе да твора кароткі аповед пра старога дзівака, у якім уважлівы чытач пазнае ўдзельніка паўстання лесніка Адама Вільдовіча.

### Зберагчы Пагоню

Год завяршэння працы над творам — 1976. У Беларусі кніга выдадзена ў 1978 годзе, сорак гадоў таму. Хто з моладзі ведаў пра Пагоню і яе рыцараў? Пра Вялікае Княства Літоўскае? Сёння гэтая аповесць у пазнавальным плане, магчыма, няшмат дадасць маладому пакаленню. А тады яна была паклікана абудзіць памяць не толькі пра час паўстання пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага, але і пра тыя часы, калі над нашай зямлёю несліся харугвы з Пагоняй. Менавіта Кастусь Каліноўскі падае сувязной „знак... — старадаўнюю манету Вялікага Княства Літоўскага. На ёй — адціснуты герб Пагоні". У гэтым эпізодзе шмат сімвалічнага. Яны, ідэолагі, кіраўнікі паўстання, пераемнікі вялікай дзяржавы, пра якую нат памяць сцертая на гэтай зямлі. І ў часы, калі ўспыхнула паўстанне, і тады, калі пісалася аповесць. У іх руках дзяржаўны сімвал. Марыя перадае лесніку, выконвае прыказ. Адам Вільдовіч зберажэ гэты знак. У дрымучых нетрах, дзе ён напачатку хаваецца ад праследу, „у поблісках ад агню таемна мільгацеў на яго далоні „Сярэбраны яздок". Меч кідаў бліскавіцы!" Змагар ведае, што азначае Пагоня. Гэта сапраўды зброя, меч, што кідае ў цемру народнай няпамяці, забітасці промні гістарычнае праўды, слаўнага мінулага нашай зямлі. Пагоня будзе сагравацъ яго ўсё жыццё. І ў самым канцы твора, калі ляснік, апошні з удзельнікаў паўстання, далучаны да таямніцы, паміраe, чытач ізноў бачыць гэты знак былое велічы. Адам Вільдовіч сам стаў Сярэбраным Ездаком. „Хадзіў па задворках Беластока стары дзівак... Апавядаў дзецям байкі пра караля Беларусі і пра „Сярэбранага Ездака". Імчаў па дзіцячым свеце Сярэбраны Яздок, знішчаючы паганых людзей". Так празвалі дзеці старога дзівака, не зразумеўшы, пра што ягоны аповед. „Калі стары памірaў, хацеў ён нешта сказаць. З яго рукі выкацілася вялікая сярэбраная манета; упала ў шчыліну". Зберог Пагоню, ды не меў каму перадаць. Бо не стала вартых нашчадкаў, згубілася былая веліч. Наша былая слава схаваная ў нераскрытых лёхах, у перарванай памяці. Але страчана не назаўсёды. Скарбы чакаюць тых, хто ўведае іх сапраўдную вартасць, хто здолее іх знайсці.

Узнікае адчуванне, што ўсё на марна. Пакутлівы шлях Марыі Грыгатовіч, бо не змагла яна перадаць важных звестак Макарэвічу-Каліноўскаму, дзеля якіх рызыкавала жыццём. Больш за тое, гэты яе шлях урэшце і стаў той ніткай, пацягнуўшы за якую палкоўнік Лосеў змог звязаць у адно разрозненыя звесткі, што прывяло да знішчэння дарэмных намаганняў змагароў доўжыць супраціў. Марны гераізм лесніка Адама Вільдовіча, які вымушаны пакінуць свой дом, туляцца ў Беластоку, да смерці застаючыся самотным дзіваком. І малодушная здрада Парфіяновіча таксама дарэмная. Бо не выкупіў ён сабе жыцця. І ўрэшце гібель Кастуся Каліноўскага, ды і само паўстанне, дрэнна арганізаванае, патопленае ў крыві, — ці не дарэмна ўсё гэта? Бо ж і сапраўды, прывяло да знішчэння многіх актыўных беларускіх патрыётаў. Узмацніўся ціск на ўсё беларускае, жорсткія цэнзурныя ўмовы зазнала пісьмовае беларускае слова. Нацыянальны рух быў паралізаваны.

Але ўсё ж аповесць не пакідае пачуцця безвыходнасці. Бо гераічны ўчынкі засталіся ў памяці, яны працуюць на будучыню. Ахвяра, прынесеная змаганню за волю, не можа быць марнай. І Сярэбраны Яздок усё ж імчыць!

**Альжбета КЕДА**

---




## http://cinema.histmuseum.by

Калі кіно стала распаўсюджвацца па цэлым свеце, многія пачалі казаць, што час тэатра і нават кніг мінуў. Маўляў, значна цікавей усё глядзець на экране, дзе амаль натуральна перадаецца змест, няма відавочных дэкарацый і не трэба самому прыдумваць, як выглядае хтосьці ці штосьці. Насамрэч аказалася, што кіно стала яшчэ адной галіной культуры і магчымасцю праяўлення чалавечай творчасці, хаця, трэба прызнаць, хіба не самым эфектным і відовішчным.

Цяпер зрабіць кіно не ёсць нейкай складанасцю для таго, хто ўмее карыстацца сучаснымі камп'ютарнымі сэрвісамі і здольны здымаць відэа на мабільны тэлефон. Але і дагэтуль, каб зняць мастацкі фільм, патрабуюцца людзі розных прафесій — у прыватнасці рэжысёры, сцэнарысты, касцюмеры і, канешне, акцёры. І менавіта аб іх працы і яе выніках у розных краінах ствараюцца музеі нацыянальнага кіно. Не выключэннем тут стала і беларуская краіна, гісторыя кіно якой захоўваецца ў музеі, які з'яўляецца філіялам Нацыянальнага гістарычнага музея Беларусі.

Сайт „кіношнага" музея месціцца ў інтэрнэце па адрасе http://cinema.histmuseum.by і выглядае так, як выглядаюць іншыя тэматычныя філіялы гістарычнага музея, пра якія раней пісала „Ніва". „Музей гісторыі беларускага кіно — гэта ўнікальны культурна-асветніцкі і відовішчны цэнтр краіны, які захоўвае памяць пра значны пласт культуры Беларусі XX стагоддзя — беларускі кінематограф і яго стваральнікаў, уключае ў сучасны культурны кантэкст лепшыя кіназ'явы мінулага, папулярызуе апошнія дасягненні айчынных кінамайстроў", — прэзентуюць музей яго захавальнікі.

Згодна прадстаўленай на сайце інфармацыі, Музей гісторыі беларускага кіно — гэта адзін з самых маладых у Беларусі музеяў, хоць у яго — амаль трыццацігадовая прадгісторыя.

„Асноўныя накірункі дзейнасці музея: збіранне, сістэматызацыя і апісанне дакументаў і матэрыялаў па гісторыі беларускага кіно і кінакультуры наогул; папулярызацыя здабыткаў нашай кінаспадчыны праз арганізацыю пазнавальных экскурсій і лекцый, сістэматызаваны паказ (у тым ліку па індывідуальна-групавых замовах) кінакласікі, а таксама наладжванне фондавых, тэматычных і персанальных выстаў, якія звязаны з кінематографам, беларускім выяўленчым мастацтвам наогул", — адзначаецца ў віртуальным прадстаўніцтве гэтай установы культуры ў рубрыцы „Пра музей".

Музей прадстаўляе наведвальнікам стальныя і экранныя экспазіцыі, часовыя выставы. Пра гэта паведамляецца анонсамі на галоўнай старонцы сайта. Праўда, да канца распрацавана толькі рубрыка, дзе ходзіць пра сталую экспазіцыю. Там нават можна здзейсніць віртуальны тур па выставе. Наконт экраннай экспазіцыі паведамляецца пра тое, што яна не працуе з-за рэканструкцыі кіназалы. А вось падрубрыка „Часовыя выставы", калі на яе клікнуць мышкай, чамусьці адразу перанакіроўвае нас на рубрыку „Афіша", дзе распавядаецца пра паказы фільмаў і лекцыі.

Пра тое, калі можна наведаць музей у рэальнасці і колькі гэта каштуе, распавядаецца ў рубрыцы „Інфармацыя для наведвальнікаў". Найбольш дарагімі з'яўляюцца экскурсіі па музеі, якія каштуюць для дарослых па пяць рублёў і цягнуцца 45 хвілін.

**Аляксандр ЯКІМЮК**

---

## Дата з Календара




### Падзеі і асобы БНР

## 100 гадоў з часу выхаду газеты „Дзянніца"

Сто гадоў таму — у 1918 г. пачала выдавацца беларускамоўная газета „Дзянніца". Яна была органам Беларускага нацыянальнага камісарыята. Гісторыя газеты досыць кароткая, але вельмі яскравая.

Першы нумар „Дзянніцы" выйшаў 1 сакавіка ў Петраградзе. У гэтым горадзе ўсяго выйшла 6 нумароў. Далей, да 24 лютага 1919 г. газета выходзіла ў Маскве. З 3 снежня 1918 г. (з нумара 40) яна выходзіла як веснік Белнацкама і Маскоўскай беларускай секцыі РКП (б). Асобныя матэрыялы друкаваліся на рускай мове. Рэдактарамі выдання былі Зміцер Жылуновіч (Цішка Гартны, №1-5), Жылуновіч і Іван Пятровіч (Янка Нёманскі, № 6-23), астатнія нумары падпісвалі выдавецкі аддзел Белнацкама (да № 39) і рэдакцыйная калегія (у 1919 г. — фактычна рэдактарам быў Павел Каравайчык).

Газета друкавала матэрыялы пра падзеі ў Савецкай Расіі, змаганне ў Беларусі з кайзераўскім войскам, а найважней — беларускія мастацкія творы. У першым нумары была надрукаваная „Дэкларацыя правоў працоўнага і эксплуатуемага народа" на беларускай мове. „Дзянніца" асвятляла дзейнасць Белнацкама і яго аддзяленняў у Петраградзе, Смаленску і Віцебску, Беларускага навукова-культурнага таварыства і Беларускага народнага ўніверсітэта ў Маскве, беларускіх згуртаванняў і ўстаноў у Расіі.

„Дзянніца" інфармавала пра жыццё беларусаў-бежанцаў, апублікавала матэрыялы Усерасійскага з'езда бежанцаў з Беларусі. Змяшчала дакументы пра палітычную і культурна-асветніцкую дзейнасць урада БНР (адозвы, устаўныя граматы, мемарандумы, загады і пастановы, тэлеграмы), паведамленні пра культурна-асветніцкую дзейнасць, адкрыццё курсаў беларусазнаўства ў Мінску, Будслаўскай і Віленскай беларускіх гімназій і іншае. Адначасна газета выказвала адмоўнае стаўленне да існавання БНР і дзейнасці яе ўрада, крытыкавала яго прагерманскую арыентацыю. Друкаваліся матэрыялы пра пабудову беларускай дзяржаўнасці, але Беларусь бачылася выдаўцамі ў складзе Расійскай Федэрацыі. У выданні была адлюстравана палеміка Белнацкама з дзеячамі Паўночна-Заходняга абкама РКП (б) і Аблвыкамзаха (Мяснікоў, Кнорын), якія выступалі супраць ідэі беларускай дзяржаўнасці.

Газета змясціла артыкул „Беларусь як частка Савецкай Федэратыўнай Рэспублікі", тэкст Маніфеста Часовага рэвалюцыйнага рабоча-сялянскага ўрада Беларусі аб абвяшчэнні Беларускай ССР, пастанову Прэзідыума ВЦВК аб прызнанні незалежнасці БССР, пастановы Беларускага савецкага ўрада і Першага Усебеларускага з'езда Саветаў.

Вынікі існавання „Дзянніцы" і яе ўнёсак у распрацоўку пытанняў беларускага жыцця падведзены ў артыкуле М. Баравога „Год нашай працы" (№ 49 ад 24 лютага 1919 г.). Газета друкавала літаратурныя творы Якуба Коласа, Цішкі Гартнага, Максіма Гарэцкага, Алеся Гурло, Ігната Дварчаніна (друкаваўся тут пад псеўданімам Гудок), Алеся Дземідовіча, Паўла Каравайчыка (псеўданім П. Каравай), Я. Макарэвіча, Язэпа Лагуна, М. Мялешкі, Фабіяна Шантыра, А. Юшкевіча, іншых, навуковыя і публіцыстычныя артыкулы Язэпа Дылы, Я. Канчара, таго ж Каравайчыка (П. Любецкі), Янкі Нёманскага, Дзмітрыя Чарнушэвіча. Усяго выйшла 49 нумароў газеты, што па мерках таго часу не так мала.

Нягледзячы на тое, што газета „Дзянніца" мела прарасійска-савецкі кірунак, яна зрабіла важкі ўнёсак у развіццё айчыннай публіцыстыкі, пашырала ідэі беларускай культуры, знаёміла з літаратурнымі творамі. У наш час назву „Дзянніца" мае раённая газета ў Шчучыне.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Аб гайнаўскай медыцынскай дапамозе

26 красавіка 2018 г. звярнуўся я з пісьмом да дырэктара Самастойнага публічнага прадпрыемства аховы здароўя ў Гайнаўцы з просьбай даць інтэрв'ю аб публічнай медыцынскай дапамозе на Гайнаўшчыне. Адказ ад імя дырэктара Рыгора Тамашука дала прэсавы заступнік Ізыдора Дудар, у якім чытаем:

— На Гайнаўшчыне ў рамках структур Самастойнага публічнага прадпрыемства працуюць раённая амбулаторыя № 1, раённая амбулаторыя № 2 у Гайнаўцы, гмінныя асяродкі здароўя ў Дубічах-Царкоўных, Нарве, Нараўцы, Чаромсе, Белавежы, вясковыя асяродкі здароўя ў Новабяразове і Семяноўцы, спецыялістычная амбулаторыя ў Гайнаўцы, аддзелы рэабілітацыі, лабараторнай дыягностыкі і герыятрычнай апекі ў Гайнаўцы. Вышэйназваныя адзінкі функцыянуюць у рамках аддзела амбулаторнай апекі. У структурах СППАЗ дадаткова функцыяніруе шпіталь імя Уладзіміра Манцюка, таксама Паліклініка доўгатэрміновай апекі. У СППАЗ працуе 140 лекараў, медсясцёр і акушэрак. На тэрыторыі Гайнаўскага павета ў рамках структур СППАЗ працуюць адно гміннныя асяродкі здароўя ў рамках пачатковай медыцынскай апекі.

У другім паўгоддзі 2017 года сямейныя лекары выдалі 4641 накіраванне да лекараў-спецыялістаў, а ў пачатках гэтага года (студзень-сакавік, даныя на 2 траўня) — 2763.

Без чаргі прымаюць пацыентаў наступныя амбулаторыі: алергалагічная, хірургічная, анкалагічнай хірургіі, дэрматалагічная, гінекалагічна-акушэрная, туберкулёзная і хвароб лёгкіх, лагапедычная, спартыўнай медыцыны, нефралагічная, неанаталагічная, акулістычная, анкалагічная, оталарынгалагічная, прэлюксацыйная, еўматалагічная, комплексу асяроддзевага лячэння.

У амбулаторыю ў чарзе трэба чакаць: у траўматалагічную — 45 дзён (стабільна) і 38 дзён з пільным накіраваннем; у рэабілітацыйную — адпаведна 93 і 38; інфекцыйных хвароб — 68 і 24; дыябетапагічную — 15 і 6; эндакрыналагічную — 350 і 151; гастралагічную — 32 і 14; кардыялагічную — 48 і 14; амбулаторыю залежнасці — 28 і 0; неўралагічную — 67 і 22; уралагічную — 132 і 71.

Гайнаўскі СППАЗ змагаецца з недахопам спецыялізаваных медыцынскіх кадраў па сямейнай медыцыне, медыцыне працы, неўматалогіі, акулістыцы, неўралогіі, інфекцыйных хвароб, псіхіятрыі, педыятрыі, туберкулёзных хваробах, выратавальнай медыцыне, дэрматалогіі, дыябеталогіі, гастралогіі, медыцынскай рэабілітацыі, алергалогіі, таксама тэрапеўтаў, фізіятэрапеўтаў як і акушэрак.

Традыцыяй у гайнаўскім шпіталі стала вядзенне апытання сярод пацыентаў на тэму пастулатаў, думак і прапаноў у адрас кіраўніцтва медыцынскага прадпрыемства. Вось некаторы запіскі з перыяду травень-снежань мінулага года:

— Закупка і мантаж агульнадаступнай пральнай машыны на псіхіятрычным аддзяленні; абсталяваць у палатах гэтага ж аддзялення тэлевізары; арганізаваць тэрапеўтычныя заняткі ў пасляабедні час і дні вольныя ад працы; замяніць аконную штору ў святліцы аддзялення назіральна-інфекцыйных хвароб; абсталяваць у палатах гэтага ж аддзялення і ў псіхіятрычным аддзяленні бяздротавы інтэрнэт; забяспечыць у душавых кабінах і звонку рэабілітацыйнага аддзялення супрацьбуксіровачныя цыноўкі; замена шафак хворых у палатах і прыспасабленне іх у бакавую пліту, дзеля дапаможнага спажывання страў і апошняе — змена асартыменту сервіраваных страў.

З таго, што прыкмячаю, некаторыя пастулаты выкананыя. Тычыцца гэта шафак пры ложках з дапаможнай для спажывання страў плітой. Іншыя ў рэалізацыі. Варта дадаць, што зараз вядзецца мадэрнізацыя выратавальнага аддзялення. Але аб гэтым пазней.

Уладзімір СІДАРУК




## Адгаданка

1. сяброўка банкноты, 2. драпежная жывёліна сямейства сабачых, 3. Каліфорнія або Тэхас, 4. карэнны жыхар Новай Гвінеі, 5. установа мясцовага самакіравання, 6. партнёрка каня, 7. горад асацыяваны з фестывалямі царкоўнай музыкі.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — беларуская пагаворка.

(ш)



Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 23 нумара**

Дзея, Ева, кіт, кумыс, певень, Піза, сані, чай, шум.

Рашэнне: **На чыім вазку едзеш, таму і песенькі спявай**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага і **Лявону Федаруку** з Рыбал.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**

BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład:** 1 000 egz.

# 01.07 — 07.07

**(22.03. — 20.04.)** Хтосьці хоча табе памагчы — хай стараецца, іншыя таксама хочуць даваць. Жыццё вымусіць на табе змену планаў і большы высілак. Калі страціў ты давер партнёра, пастараешся вярнуць ідылію. Наладзіш інспіруючыя, часам нечаканыя знаёмствы, якія пашыраць твае гарызонты. На працы твая сіла, цярплівасць і трываласць будуць падданы спробе. Варта выбрацца ў далейшае падарожжа; летнія знаёмствы акажуцца вельмі карыснымі ў будучыні.

**(21.04. — 21.05.)** Будзеш мець сілу тварам у твар стануць перад перашкодамі лёсу. Росквіт лета ў тваім сэрцы. Адважна возьмешся за выклікі, якія здаваліся табе яшчэ нядаўна непераадольнымі. Сілы падмацуюць людзі, якія дзейнічаюць з поспехам (пільнуй, абы не супраць закону). Удачы на працы, але ўзірайся на тое, што робіць шэф і людзі непрыхільныя да цябе. Часам варта ўступіць і быць дыпламатычным.

**(22.05. — 22.06.)** Зробіш малы перападлік у сваёй душы, ды замест у банк, пойдзеш да... варожкі. На працы не рабі нічога на цяп-ляп, пільнуй таксама, каб усё было згодна з законам. Мары аб духоўным адраджэнні, жыцці згодным з натурай і рытмамі космасу. На працы пагоніш усе хвасты. Не бойся і не саромейся прасіць дапамогі. Правер, ці асобы, з якімі супрацоўнічаеш, вартыя даверу.

**(23.06. — 23.07.)** Арыгінальныя, творчыя задумы на працы. Энергія, аптымізм, новыя ідэі. Хтосьці можа табе моцна закрунуць у галаве (асоба вельмі энергічная). Хтосьці можа запрапанаваць табе ўдзел у групавой імпрэзе (праца, інтарэсы, выезд за мяжу) — добра перадумай справу: саламяны агонь можа ахапіць і тваіх сяброў. Росквіт пачуццяў і ўдачы ў каханні. Увесь месяц найлепшы для рэалізацыі амбітных мэт.

**(24.07. — 23.08.)** Удачы на працы і ў каханні. Нагода паправіць стан фінансаў. Ад лішку эмоцый можа аж закруціцца ў галаве! Ідуць новыя эмоцыі і пачуцці. Дабрадзейная энергія з космасу, добрыя кантакты з атачэннем. Калі наракаў ты на лёс, усё пойдзе ў лепшым напрамку. Магчымае перасяленне, нават за мяжу. Пільнуй выдаткі, асцерагайся рызыкоўных інвестыцый, крэдытаў.

**(24.08. — 23.09.)** Будзеш відны і прывабны. Рост моцнай волі і глыбейшае разуменне мэт жыцця. Ваўка ў воўчай шкуры можаш лёгка палічыць сваім прыхільнікам. Пільнуйся! Можа табе здавацца, што заблукаў, ды гэта якраз ты перастаўляць будзеш жыццё на іншыя пуці. Круціся вакол прафесійных спраў, чакае цябе месяц поспехаў. Давядзі да канца праекты, якія даўно табе ходзяць па галаве.

**(24.09. — 23.10.)** Сатурн схіліць цябе да сур'ёзных змен у жыцці, а нават пачатку новага. Можаш перажыць прафесійны ці фінансавы крызіс. Лагода і адданасць гэта не пашпарт у сужэнскае шчасце. Пагодлівыя дні, ды не будзеш вылежвацца жыватом уверх. Ад тваёй аператыўнасці залежыць, ці ўмела выкарыстаеш нагоды. Будзеш асабліва прыгожы і прываблівы.

**(24.10. — 22.11.)** Мноства аптымізму і пазітыўнага мышлення, лёгка пераможаш цяжкасці. У дзейнасці няхай кіруе табою логіка і развага. Усё лета з усмешкай і задавальненнем. Пры праблемах людзі стануць за табой мурам. Жыццё на поўную катушку, абыдзецца без прыкрых неспадзяванак. Ды не працуй над свае сілы. Пры рамонце і ў падарожжы не паранься. Будзеш снаваць планы пра разбагаценне! Прыхільнае стаўленне да людзей адкрые перад табой шмат дзвярэй. Можаш добра пахудзець!

**(23.11. — 22.12.)** Твой моцны бок — камунікабельнасць і лёгкая рука да трапных і хуткіх рашэнняў. Спрыяе табе Сонца! Згода дома, лепшае здароўе, настрой. Пры падпісванні дамоў дакладна ўзірайся ў тое, пад чым падпісваешся. Шанцы знайсці спонсара, асобы з аўтарытэтам, якія падтрымаюць твае задумы.

**(23.12. — 20.01.)** Будзеш аж свяціцца ад здароўя і цешыцца папулярнасцю. Варта паправіць свой імідж! Займіся заданнямі патрабуючымі дакладнасці і ўпартасці — гэта паможа развінуць кар'еру. Паафармляй незаконачанае, можаш здабыць падтрымку аўтарытэтаў і Юпітара, пяроймеш ініцыятыву ў фінансавых справах.

**(21.01. — 19.02.)** Разлічвай на пазітыўныя змены ў прафесійнай сферы жыцця, нават рэвалюцыйныя. Матывацыя да працы, сяброўства і супрацоўніцтва. Добры час для амбітных і ідучых уперад. Вельмі добры дзень 5.07. Зважай на тое што гаворыш і хто цябе слухае. Будзь асцярожны, але не маніфестуй гэтага. У прыватным жыцці гармонія і стабілізацыя.

**(20.02. — 21.03.)** Пяроймеш ініцыятыву і лёгка справішся з перашкодамі лёсу, таксама прафесійнымі. Будзеш актыўны і рашучы. Калі адчуеш слабасць, памогуць мінералы і вітаміны; пацікаўся ёгай, варта прымяняць зёлкі і гамеапатыю. Добра ў пачуццях і ў падарожжах. Самотная Рыба атрымае шанц увайсці ў шчаслівую сувязь, у старых парах гармонія і паразуменне.

Агата АРЛЯНСКАЯ

# Пад Альпамі (ч.3)

Нямецкія ўлады згаджаюцца перавезці Леніна ў Расію, аднак Ленін, які так рваўся ў вір расійскіх падзей, даволі асцярожна паставіўся да нямецкай прапановы. Была заключана дамоўленасць, што каля трыццаці расійскіх падарожнікаў будуць цераз Германію вяртацца ў спецыяльным „экстэрытарыяльным" вагоне. Значыць у прызначаным ім адным вагоне была нарысавана мелам на падлозе лінія, якой нельга было перайсці ні расійскім пасажырам, ні наглядаючым за імі двум нямецкім афіцэрам. Такі лад быў дзеля таго, каб не скампраметаваць бальшавікоў непасрэднымі кантактамі з немцамі. Пасажырам нельга было кантактаваць з германскім насельніцтвам на прамежкавых станцыях. Адзінай асобай, якая магла свабодна перамяшчацца па цэлым вагоне, быў швейцарац Фрыц Платэн. Пасажыры „экстэрытарыяльнага" вагона не падвяргаліся ніякай праверцы: ні на змест іх багажу, ні на іх погляды. Але пакуль дабраліся яны туды, швейцарскія мытнікі ператрэслі тыя багажы і аднялі ў іх амаль увесь прызапашаны правіянт... А на вакзале ў Цюрыху, адкуль яны выязджалі ў напрамку граніцы лакальным поездам, група расійскіх эмігрантаў абзывала іх здраднікамі

Ленін выбыў з Цюрыха 9 красавіка 1917 года і прыбыў у Петраград 3 красавіка таго ж года. У гэтых датах няма ніякай памылкі: з Цюрыха Ленін выязджаў у каталіцкі/пратэстанцкі велікодны панядзелак паводле грыгарыянскага календара, а прыехаў у Петраград у праваслаўны велікодны панядзелак паводле юліянскага календара. Ад нямецка-швейцарскай граніцы вагон даставілі 12 красавіка ў балтыйскі порт Засніц на Ругене, дзе пасажыраў перавялі на паром „Drottning Victoria", у Трэлеборг. З Трэлеборга кампанію Леніна перавезлі мясцовым поездам у Мальмё, адкуль, пасля пачастунку зладжанага арганізатарамі падарожжа, таварышы падаліся цягнікам у Стакгольм. У Стакгольме быў некалькігадзінны перапынак, калі Ленін купіў сабе „пралетарскую" шапку; раней апранаў ён капялюш... Са Стакгольма чарговым поездам пераехалі яны ў пагранічную мясцовасць Хапаранда, адкуль на санях цераз замерзлую пагранічную раку Турнеэльвен дабраліся ў фінскую пагранічную мясцовасць Торніо; Фінляндыя ў той час была аўтаномнай часткай расійскай імперыі. З Торніо цягнік завёз Леніна з ягонымі спадарожнікамі на Фінскі вакзал у Петраградзе. Мінула крыху больш за паўгода ад адпраўкі Леніна з Цюрыха 9 красавіка 1917 года да захопу ім улады ў Петраградзе 7 лістапада...

Ці германскі план развалу Расіі шляхам пастаўкі туды Леніна апраўдаўся? Агулам у той час Германія расходавала на падрыўную дзейнасць на расійскіх тылах 26 мільёнаў марак; не толькі на падтрымку бальшавікоў... Ацэньваецца, што на франтах Першай сусветнай вайны Расія страціла каля пяці мільёнаў салдат; у хаосе Грамадзянскай вайны загінула каля дваццаці мільёнаў чалавек. У пазнейшыя гады бальшавіцкага праўлення былі чарговыя мільёны...

А якое дачыненне да агульнай гісторыі мела звышгадовае пражыванне Леніна ў Цюрыху? Вікіпедыя: „Zwischen 1909 und 1917 stieg der Stromverbrauch der Zürcher von 77 kWh pro Kopf und Jahr auf 143 kWh." Значыць цягам васьмі гадоў індывідуальнае расходаванне электраэнергіі жыхарамі Цюрыха ў час прабывання там Леніна падвоілася. Цалкам верагодна, што гэта было адлюстравана ў славутым лозунгу Леніна „Камунізм гэта савецкая ўлада плюс электрыфікацыя цэлай краіны". А за гэтым пайшла пабудова гідраэлектрастанцый на найбольшых еўрапейскіх і сібірскіх рэчках, а пазней шэрагу атамных электрастанцый, у тым ліку і чарнобыльскай. Калі мова пра атамныя электрастанцыі, то яны працуюць і ў Швейцарыі, але да паловы 2030-х гадоў плануецца іх закрыццё і пераход на электраэнергію з экалагічна чыстых крыніц.

А калі б Ленін не трапіў у Цюрых, толькі заставаўся ў Кракаве, якія былі б яго адносіны да рэлігіі? Можа менавіта ў Цюрыху ён заразіўся радыкальным цвінгліянствам, што пасля знайшло адлюстраванне ў ваяўнічым атэізме бальшавікоў. У маладых гадах Ленін хіба не быў аж так рашучым праціўнікам рэлігіі, калі ён вянчаўся з Крупскай у царкве. Праўда, найбліжэйшымі таварышамі расійскага правадыра пралетарскай рэвалюцыі былі асобы ніяк не звязаныя з Царквою, але... Калі б Ленін вяртаўся ў Петраград не з Цюрыха, толькі з Кракава, то можа ён прывёз бы з сабою кракаўскую набожнасць; магчыма...

Ігар Буніч на партале chitalnya.ru: „Патриарх Тихон направил Ленину письмо, где предложил передать часть церковных ценностей для закупки хлеба в помощь голодающим... Ленин пришел в сильное возбуждение. Письмо Патриарха он воспринял как возмутительный вызов, сделанный церковью... Церковь, чтобы *унизить нас, подчеркнуть своё влияние*, вылезает с подобными предложениями. Она как бы нас контролирует и укоряет... Пока патриарх Тихон ожидал ответа от советского правительства на свое благородное предложение, Ленин 23 февраля 1922 г. подписал декрет *Об изъятии церковных ценностей в пользу голодающих*... По стране насчитывалось около 80 тысяч христианских церквей, главным образом православных. Отряды ГПУ (так теперь называлось ВЧК) ринулись к воротам храмов и монастырей. Верующие пытались своими телами защитить драгоценные святыни. Нападавшие без каких-либо колебаний открывали огонь. С икон срывались драгоценные оклады; золотая и серебряная утварь, включая дароносицы и паникадила XV-XVII вв., литые золотые кресты времен Иоанна Грозного и первых Романовых складывались в ящики и мешки. Выковыривались драгоценные камни, срывались переплеты с Библий, конфисковались все найденные золотые и серебряные монеты. Пылали костры из древних икон, горели рукописные старославянские книги, Библии XIII-XIX веков, крушились алтари. Но это было только начало...Церкви были разграблены, как и приказал Ленин, *с беспощадной решительностью и в кратчайший срок*. Расстреляно 40 тысяч священников, дьяконов и монахов, а также около 100 тысяч верующих, входивших в церковные *двадцатки* и общины...".

У Цюрыху, пад Альпамі, Ленін напісаў кнігу „Імперыялізм як вышэйшая стадыя капіталізму", у якой „даказаў, што імперыялізм ёсць паміраючы капіталізм". З прыходам бальшавікоў да ўлады пачалося менавіта гэтае даказванне, гэтае разрушэнне ўсталяванага грамадскага парадку. Але ж была і стваральная дзейнасць; стварыць новую пароду людзей *homo sovieticus*; Вікіпедыя: „pojęcie funkcjonujące początkowo w ZSRR jako określenie kolejnego etapu ewolucji człowieka Homo sapiens ukształtowanego dzięki powodzeniu marksistowskiego eksperymentu społecznego. Leszek Kołakowski uważał, że pracą kluczową w kształtowaniu homo sovieticus był „Krótki kurs historii WKP(b)", który, przez swoje liczne zmiany zgodne ze zmianami „linii partii" lub eliminacją kolejnych przywódców partyjnych, był „podręcznikiem sfałszowanej pamięci i rozdwojonej rzeczywistości". Cechy wykształcone przez wieloletnie powtarzanie kolejnych wersji „Krótkiego kursu" doprowadziły do wykształcenia „nowego człowieka sowieckiego: ideologicznego schizofrenika, szczerego kłamcy, człowieka gotowego do nieustannych i dobrowolnych samookaleczeń umysłowych". Według nich mentalność Homo sovieticus można scharakteryzować następującymi cechami: człowiek podporządkowany kolektywowi (organizacji partyjnej), dla jego postawy charakterystyczna jest ucieczka od wolności i odpowiedzialności, koniunkturalizm, oportunizm, agresja wobec słabszych, uniżoność wobec silniejszych, brak samodzielnego myślenia oraz działania, oczekiwanie że „ktoś coś załatwi"" і г.д.

Беларусь з'яўляецца бадай такой краінай, у якой захавалася найбольш помнікаў Леніну. І беларусы, як мне здаецца, у найбольшай ступені перавярнуліся ў постаць савецкага чалавека. Хіба ж невыпадкова „ліквідацыя імперыялізму" — калектывізацыя, у Польшчы ў сталінскі час была даручана нашым тутэйшым супляменнікам. Менавіта ў нашай частцы тадышняга Беластоцкага ваяводства стаханаўскімі тэмпамі арганізаваліся калгасы...

На беластоцкім Высокім Стачку высіцца касцёл Уваскрэсення Гасподняга. Парафіяльны партал: „Kościół parafialny pod wezwaniem Zmartwychwstania Pańskiego zbudowano w latach 1991-1996 staraniem ks. prałata Tadeusza Krawczenki i parafian. W zamiarach ideowych nowy kościół dla tej parafii miał upamiętniać wszystkich Polaków poległych z rąk najeźdźców. Jako wzór architektoniczny miała posłużyć nieistniejąca już świątynia pobazyliańska z Berezwecza (dawne województwo wileńskie, obecnie Białoruś), będąca wyśmienitym przykładem architektury z kręgu baroku wileńskiego". Энцыклапедычны даведнік: „Яе архітэктура надзвычай маляўнічая і пластычная. Здаецца, што сцены вылеплены з мяккага паслухмянага матэрыялу. Унутры Беразвецкая царква была таксама багата аздоблена ляпной стукавай пластыкай. Спалучэнне архітэктурных і ляпных дэталей, дынаміка іх перапляцення стваралі ў галоўным алтары ўражанне бязмежнай незамкнёнай, нібы невычэрпнай прасторы...". Храм быў разбураны бальшавікамі ў 1960-х гадах...

У цяперашнім польскім мейнстрыме царыць асуджэнне Леніна і ягоных бальшавікоў. Ды не толькі ў польскім — гэта амаль у цэлым свеце. Аднак я звяртаю ўвагу, што ёсць і рэверс размалёўванага цяпер Ленінавага партрэта. Менавіта Ленін узняў у Расіі такі хаос, якога не вытрымалі нашы бежанская продкі — яны былі вымушаны вярнуцца на радзіму. Так як раней былі прымушаны царскімі ўладамі і намоўлены паслушнымі ім святарамі гэтую радзіму пакінуць. Калі б не Ленін і ягоныя цюрыхскія роздумы, невядома які быў бы лёс нашых продкаў; невядома, які быў бы наш лёс. Хіба можна нават сказаць, што Ленін вярнуў нас нашай радзіме і нашу радзіму нам. Можа помнікі яму ў Беларусі і з'яўляюцца падзякай за сённяшні грамадскі выгляд колішняй Гродзенскай губерні...

**Аляксандр ВЯРБІЦКІ**



Фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

■ Касцёл Гросмюнстэр у Цюрыху



■ У Стакгольме: Ленін крочыць з парасонам у руцэ. За ім, у вялікім капялюшы, ягоная жонка Надзея Крупская, за Крупскай Іneса Арманд, за імі Грыгорый Зіноўеў з сынком



■ Паром „Drottning Victoria"

ISSN 0546-1960